Bielarus 08-2013 pages 1-5_Layout 1 9/17/2013 10:43 AM Page 1





Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 602 Жнівень, 2013 г. Год выданьня 64

## Шаноўныя чытачы!

Перад вамі апошні летні нумар нашай газэты, які адлюстроўвае падзеі за жнівень бягучага году. Гэта быў яшчэ час летніх адпачынкаў, аднак беларускае жыцьцё было адзначанае многімі адметнымі падзеямі. Напрыканцы жніўня ў Беларусі і беларускім замежжы адзначалася чарговая гадавіна гістарычных падзеяў у Менску, якія завяршылі юрыдычнае афармленьне факту набыцьця дзяржаўнай незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны. Аднак сьвята наша азмрочвалася тымі сумнымі падзеямі, якія сёньня адбываюцца ў Беларусі, дзе дыктатрская ўлада заганяе краіну ў тупік. Пра такія факты вы можаце прачытаць ў некаторых публікацыях газэты.

Разам з клопатам пра далейшы лёс Бацькаўшчыны мы зьвяртаемся ў гэтым выпуску да праблемы нашага ўласнага лёсу на эміграцыі. Ці удасца захаваць беларускія асяродкі ў дыяспары, якая будучыня чакае беларускую эміграцыю ў краіне, дзе мы жывём? На гэтую актуальную тэму мы распачынаем дыскусію, на пачатак якой прадстаўляем погляды Алесі Кіпель і Юрася Зянковіча. Запрашаем усіх вас да ўдзелу ў абмеркаваньні і просім выказваць свае ідэі і прапановы.

Падаем таксама навіны пра жыцьцё і дзейнасьць беларускіх грамадзкіх арганізацый, якія ладзілі свае імпрэзы ў жніўні.

Адзначылі мы і сумную 45-ю гадавіну падзеяў 1968 году ў Чэхаславакіі, дзе і беларусы не па сваёй волі бралі ўдзел. Чэхія, блізкая нам краіна, перажыла шмат драматычных падзеяў у ейнай гісторыі, як і наша шматпакутная Беларусь.

Запрашаем вас не абыйсьці ўвагаю каляндар памятных датаў на кастрычнік-лістапад, які дае нам магчымасьць узгадаць імёны выбітных асобаў нашай гісторыі і адметныя гістарычныя падзеі. Гэта ня толькі даніна памяці, ушанаваньне, але і больш глыбокае азнаямленьне з гісторыяй свайго народу.

Чакаем вашых водгукаў на публікацыі, навінаў, прапановаў, інфармацый і, вядома, вашай фінансавай дапамогі нашай-вашай газэце.

Рэдакцыя

## 25 жніўня 1991 году - адна з сакральных датаў у гісторыі Беларусі



*У гэты дзень Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі, прынятай 27 ліпеня 1990 году, быў нададзены статус Канстытуцыйнага закона і такім чынам было завершана юрыдычнае замацаваньне незалежнасьці краіны.*

*«Беларусы маюць дзьве вялікія сакральныя даты — Дваццаць пяты Сакавік 1918 года, калі Незалежнасьць Беларусі была аб'яўлена, і Дваццаць пяты Жнівень 1991 года, калі дзяржаўная Незалежнасьць была дасягнута. Сёньня абедзьве гэтыя даты пад пагрозай і забаронай, а краіна пад акупацыяй антыбеларускага рэжыму. Але Незалежнасьць ёсьць, дзяржава існуе. Яна ёсьць рэча-існасьцю нашага дзяржаўнага існаваньня і грунтам вольнай і сьветлай будучыні. Дзе б ні былі, беларусы, і як бы ні павярнуўся наш лёс, шануйма нашу дзяржаўную Незалежнасьць, як жыцьцё, як мову, як здароўе».*



*Менск, 25 жніўня 1991 года*

*Зянон Пазьняк*

## Сьвяткаваньне ў Нью-Ёрку



*Выступ Галіны Пазьняк*



*Прамаўляе Андрэй Асадчы*

25 жніўня 2013 г. у грамадзка-царкоўнай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне 22-й гадавіны аднаўленьня Незалежнасьці Беларусі.

Урачыстасьць пачалася са славутай "Пагоні" Максіма Багдановіча, якую прысутныя слухалі стоячы. Імпрэзу адкрыла старшыня Бруклінскага аддзела БАЗА Тацьцяна Красоўская. У сваім слове яна нагадала, як адбываўся працэс, што прывёў да практычнай незалежнасьці нашай краіны, а таксама зачытала віншавальны ліст сп. Зянона Пазьняка, які браў непасрэдны ўдзел у тых падзеях.

Пра гістарычны шлях змаганьня беларусаў многіх пакаленьняў за Волю і Незалежнасьць цікава і зьмястоўна распавёў Андрэй Асадчы.

Зь вялікім зацікаўленьнем прысутныя слухалі літаратурную кампазыцыю па кнізе Зянона "Вялікае Княства" ў пранікнёным мастацкім выкананьні Галіны Пазьняк.

Усе выступы суправаджаліся відэазапісамі беларускіх сьпеваў розных гадоў у выкананьні знакамітых беларускіх сьпевакоў.

Напрыканцы ўрачыстай часткі імпрэзы прысутныя паглядзелі відэакліп беларускіх мітынгаў у Менску на фоне гучаньня беларускіх гімнаў.

*Інфармацыйны Цэнтр
Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня*

*Фота Дзьмітрыя Шчыгельскага*

# Рэчаіснасьць і будучыня

У 2013 годзе назіраецца выразная інтэнсыфікацыя акупацыйнай палітыкі на Беларусі з боку антыбеларускага рэжыму і пуцінскай Масквы. Гэта выяўляецца ва ўсё больш жорсткай трактоўцы беларусаў як акупаванага насельніцтва і шэрагу захадаў, накіраваных на ліквідацыю сувэрэнітэту, падрыву эканомікі і пазбаўленьня матэрыяльнай базы людзей, што мусіла б прывесьці да яшчэ большай люмпэнізацыі грамадзтва і зьмяншэньня колькасьці карэнных жыхароў Беларусі.

Ключавыя падзеі ў гэтым накірунку, якія адбыліся з пачатку года, наступныя:

- канчатковае рашэньне рэжыму аб пабудове атамнай электрастанцыі ля Астраўца (фактычна расейскай) коштам Беларусі і інтэнсыфікацыя будаўніцтва;
- увядзеньне расейскай ваеннай базы ў Беларусь. Перадача аэрадрома, пабудоў і тэхнічнага забесьпячэньня пад расейскую ваенную авіябазу каля Ліды;
- канчатковае рашэньне аб стварэньні кітайскага тэхнапарка ў Беларусі і аб перасяленьні кітайцаў на беларускую тэрыторыю. Інтэнсыфікацыя будаўніцтва;
- заражэньне афрыканскай чумой сьвіной жывёлагадоўлі Беларусі. Неадэкватныя меры ў ліквідацыі эпідэміі сьвіной чумы ў краіне. Плянаваньне заканадаўства аб забароне вырошчваньня сьвіней насельніцтвам Беларусі;
- плянаваньне заканадаўства аб абмежаваньні рыначнага гандлю для насельніцтва (дазволіць гандаль толькі садавінай-гароднінай, астатняе забараніць);
- пачала дзейнічаць антынацыянальная сыстэма падаткаабкладаньня ў сувязі з уцягненьнем краіны ў мытны зьвяз Расеі і Казахстана;
- справакаваныя праблемы са стратэгічным рэсурсам краіны - «Беларуськаліем»;
- ганеньні на беларускія кнігі, беларускіх гісторыкаў і Горадзенскі ўнівэрсытэт;
- пачатак новага ганеньня на беларускі каталіцкі касьцёл (захоп ксяндза Лазара);
- пачатак чарговага ганеньня на беларускую навуку, працяг зьнішчэньня фундамэнтальнай навукі.

Усё гэта адбылося на працягу паўгода і (што істотна) рухаецца адначасна. Атамная электрастанцыя ў сэйсмічнай зоне за кошт Беларусі – гэта рэальная пагроза другой атамнай катастрофы, якую беларуская нацыя ўжо наўрад ці здолее перажыць.

Расейская ваенная авіябаза пад Лідай за кошт Беларусі – гэта ёсьць частковае абмежаваньне і рэальная пагроза сувэрэнітэту краіны, а таксама патэнцыйная пагроза нацыі на выпадак ваеннага канфлікту. У любы час ваенная сіла расейскай базы можа быць скарыстана супраць народа Беларусі.

Стварэньне кітайскага тэхнапарку ў Беларусі па сваёй фінансава-эканамічнай сутнасьці – выглядае афёрай, якая павесіць мільярдныя даўгі на плечы беларусаў. Кітайцы ня ў стане асвоіць высокія тэхналёгіі, зрабіць якасныя тавары, якія на высокім узроўні маглі б канкураваць на рынку.

Але палітычная сутнасьць авантуры з кітайскім тэхнапаркам не ў тэхналёгіі і не ў эканоміцы, а ў перасяленьні вялікай колькасьці кітайцаў у Беларусь (па пляну каля мільёна). У вайне зь беларускай нацыяй да гэтага не дадумаліся ні цар, ні бальшавікі. Беларусы ня змогуць абсалютна нічым супрацьстаяць кітайцам, у іх няма ніякай зброі дзеля супраціўленьня. Перад кітайцамі мы ўжо ня нацыя, не грамадзтва і не культура, а бязладны натоўп.

Гісторыя імпэрскага вынішчэньня народаў пакінула шэраг фактаў антычалавечнага варварства і злачынства, калі, нішчачы народ, падрывалі яго эканоміку, пазбаўлялі людзей працы і харчаваньня. Выразныя прыклады – Ірляндыя, Украіна, Камбоджа (Кампучыя), Абхазія і г. д.

Тое, што афрыканская сьвіная чума завезена ў Беларусь з Расеі, вымкнулася адразу, але потым інфармацыю прыдушылі і пра пытаньне, адкуль што ўзялося, як бы і не гавораць. А «ўзялося» яно з Расеі разам з усімі тымі зьявамі, пра якія я тут пішу.

У Расеі яшчэ з савецкіх часоў сьвінагадоўля была разьвітая вельмі слаба. Амаль увесь СССР мясам забясьпечвала Беларусь, якая вырабляла яго на душу насельніцтва больш, чым у Злучаных Штатах Амэрыкі. Афрыканская сьвіная чума ў Расеі існуе ўжо гадоў шэсьць. Але паколькі гэты сэктар жывёлагадоўлі там невялікі, то і катастрафічных вынікаў у расейскай эканоміцы эпідэмія ня выклікала. Тым часам у Беларусі галоўныя прадукты жывёлагадоўлі і асноўныя сродкі харчовага існаваньня насельніцтва – гэта сьвінагадоўля, буйное рагатае быдла (каровы) і галоўная культура – бульба. Падрыў аднаго з гэтых асноўных складнікаў ёсьць удар па ўсім народзе.

Цяпер гэты ўдар ужо нанесены - ціха, хітра і падступна. У сельскай мясцовасьці зараз ужо ня кожны можа ўтрымаць карову. Статак прыватных кароў зьменшаў. Але парсюка выгадаваць і ўтрымліваць лягчэй - можа нават кожны адзінокі пэнсіянэр. Зараз усе гэтыя людзі асуджаныя на беднае, нішчымнае існаваньне, а сьвінагадоўля ў краіне можа быць увогуле зьнішчана як гаспадарчая вытворчасьць. Пра тое, што ўсё ідзе да гэтага, сьведчаць варварскія татальныя мэтады зьнішчэньня хворых і здаровых (!) жывёл і пляны рэжымнай улады забараніць беларусам увогуле трымаць і гадаваць сьвіней.

Я ўжо не кажу пра праблему зь дзікамі ў беларускіх лясах. Але тут зраблю дэгрэсію, каб паказаць, якая ланцуговая рэакцыя гэтай расейскай чумы разгортваецца ў палітыцы. Выявілася, што шмат якія беларусы, аказваецца, ня ведаюць, што гадоў 6-7 таму па мяжы Віленшчыны зь Беларусяй летувісы за грошы Эўразьвязу ціхенька паставілі мэталёвы нержавейны трохмэтровы плот. Але гэтага мала (ўсё роўна страшна). Цяпер, у сувязі з расейска-афрыканскай чумой, яны зноў тармосяць Брусэль. Ім хочацца ўжо зрабіць на мяжы магутную стальную непрабіўную сцьяну, каб адгарадзіць Віленшчыну надзейна.

Закон аб абмежаваньні гандлю на грамадзкіх рынках яшчэ рэжымам не прыняты, але сама пастаноўка пытаньня аб тым, каб людзям дазволіць гандляваць на рынках толькі садавінай ды гароднінай, набліжае становішча да панаваньцяў «чырвоных кхмераў». Сумяшчэньне такіх накірункаў вынішчальнай палітыкі як абмежаваньне гандлю на грмадзкіх рынках плюс распаўсюджваньне афрыканскай сьвіной чумы паказвае на злавесную тэндэнцыю, накіраваную на зьбядненьне і безвыходнасьць жыцьця беларускага насельніцтва ў сваёй краіне, на выштурхоўваньне беларусаў за мяжу (у Расею) і адначасна засяленьне краіны іншымі людзьмі, найперш – кітайцамі.

Назіраньні за рэжымам, не даюць ніякіх «невядомых» ў сістэме ураўненьняў акупацыйных падзей. Антыбеларуская антынацыянальная палітыка відочная, грубая і наўпроставая як палка. Можна ўзяць любы год цёмнага рэжыму, пералічыць яго палітычныя дзеяньні, і яны самі ўкладваюцца ў радок антыбеларускай накіраванасьці. Застаецца толькі просты фармальны аналіз. У 2006 годзе на афіцыёзным так званым «усебеларускім сходзе» начальнік рэжыму адкрыта сказаў, што сэнс ягонага праўленьня – зрабіць так, каб нічога ўжо ня можна было вярнуць назад. Гэта формула разбурэньня выказаная цынічна і тупа.

Зноў пачаліся напады на касьцёл, на навуку, на значных асоб, на чарзе будуць творчыя калектывы і людзі, беларуская гісторыя, унівэрсытэцкая адукацыя і г. д. Пачынаецца новая хваля зачысткі нацыі, дзе нават павышэньне платы за вучобу ў ВНУ наўпрост паяднана з апэрацыяй «сьвіная чума» (шмат студэнтаў матэрыяльна зьвязаныя зь вёскай, вучыцца ім стане немагчыма).

У гэтым годзе Беларусь уступіла ў новы этап пагібелі народа – матэрыяльны. Перад гэтым (пра што мне прыходзілася шмат пісаць) быў пэрыяд разбурэньня духоўнага і палітычнага (разбурэньне нацыянальных каштоўнасьцяў), які пачаўся са зьнішчэньня нацыянальна-дзяржаўных беларускіх сымболяў і ўвядзеньнем акупацыйнай мовы ў якасьці дзяржаўнай. Потым былі зьнішчаны беларускія падручнікі, кнігі, газэты, дзіцячыя часопісы, выдавецтвы, беларуская школа, беларускае тэлебачаньне і радыё, беларускія архівы радыё і тэлебачаньня, літаратура, грамадзянская супольнасьць, сфальсіфікаваная і абляпаная беларуская гісторыя і г. д.

Асноўныя каштоўнасьці, дэклараваныя хунтай для людзей вёскі, працоўных і пэнсійных масаў, на якія абапіраўся рэжым, былі рэгулярная пэнсія, «чарка і скварка». Цяпер скваркі ўжо ня будзе. Але рэжым набраў такую кандыцыю, што цалкам можа існаваць без народа: усе сістэмы функцыянуюць самастойна.

Апошні, трэці этап, які можа надыйсьці (бо ўжо было) – гэта этап фізычны (фізычнае вынішчэньне былых беларусаў). Пра гэта можна па-рознаму думаць і нават зусім ня думаць, але ўсё, што пісалася, казалася і папярэджвалася 15-20 гадоў таму (і пра што некаторыя не хацелі слухаць), адбылося потым ва ўсіх на вачах і працягвае адбывацца.

Акупацыйны рэжым і акупацыйная палітыка выяўляюцца перш за ўсё ў адносінах да насельніцтва. Акупаванае насельніцтва бясправўнае. Людзі, экспэрты, навукоўцы, працаўнікі і творцы могуць пісаць скаргі, зьвяртацца, зьбіраць подпісы, нават мітынгаваць, каб не будавалі ім, напрыклад, пад носам чужы шкодны хімзавод, каб не зганялі іх з сваёй зямлі дзеля кітайцаў, расейцаў і г. д. Але ўсё яно дарма. Чхаў акупацыйны рэжым на ўсе гэтыя рабскія пэтыцыі. Хімзавод пабудуюць на носе, зганяць са сваёй зямлі

*Заканчэньне на 3-й бачыне*

Bielarus 08-2013 pages 1-5_Layout 1 9/17/2013 10:43 AM Page 3





*Заканчэньне з 2-й бачыны*

беларусаў, паселяць кітайцаў і пасадзяць на карак атамную электрастанцыю. А калі вёска будзе замінаць, прыгоняць бульдозеры, зруйнуюць дамы, усё спаляць і паедуць далей. Такая рэчаіснасьць. І калі яна каму незразумелая, то толькі па віне таго, хто не зразумее, нават калі па яго ўжо прыйдуць.

Аб'ектыўнае становішча цяпер такое, што адкрытыя грамадзкія пратэсты, практычна, ня маюць выніку, траціцца іх сэнс. Тут амаль тое самае, калі б у 1943 годзе ў Менску выйсьці з плякатамі супраць Гітлера за правы чалавека. Канцлягер забясьпечаны. Таму змагаліся іншымі спосабамі.

Але рэчаіснасьць такая, што кожны дзень існаваньня антыбеларускага рэжыму – гэта крок да народнай сьмерці. Пэрспэктыва ў рэжыма – толькі сьмерць. Яна ўжо дыхае ў патыліцу нацыі.

Аб'ектыўна беларускае грамадзтва стаіць перад неабходнасьцю - як толькі магчыма ліквідаваць антыбеларускі рэжым і дыктатуру дзеля свайго нацыянальнага ацаленьня. Але ажыцьцявіць тое яно ня ў стане, бо за гады ўнутранай акупацыі нацыя духоўна зламалася (яе зламалі). Пералом адбыўся даўно, і арганізавацца на змаганьне яна пакуль не гатовая.

Каб змагацца з вынішчэньнем народа, трэба абараняць сваё. Тым часам люмпэнізацыя беларускіх масаў дасягнула крытычнай рысы. Ім няма чаго абараняць. У іх няма зямлі і прыватнай уласнасьці, няма мовы, культуры, гісторыі. Ад іх гэта альбо адабралі, альбо яны самы адмовіліся пад прымусам. У іх ужо няма нічога свайго, і таму, фактычна, няма Айчыны, якую яны лёгка могуць аддаць, не разумеючы яе каштоўнасьці.

Становішча амаль трагічнае. Асабліва ўлічваючы, што разгромленыя нацыянальныя палітычныя сілы. Тым ня менш ліквідацыя рэжыму – гэта неабходнасьць.

Трэба цьвяроза ўсьведамляць на ўзроўні адказнасьці за будучыню нацыі (ня слухаць розных пустых і купленых балаболаў), што пасьля ліквідацыі рэжыму на доўгі час (пакуль ня станем на ногі і ня створым моцны ўнутраны рынак) шлях у Эўразьвяз для нас павінен быць зачынены. Інакш мы імгненна страцім палову працаздольнага насельніцтва, а то і больш. Яно выедзе з краіны. Тым больш, што ў часы пераменаў эканамічныя цяжкасьці і пагаршэньне жыцьця непазьбежныя (і мы ведаем, што гэта за цяжкасьці і хто можа прыехаць замест сваіх). Не выпадкова часам чуюцца, здавалася б, дзіўныя заявы на Захадзе, што пасьля ліквідацыі рэжыму Беларусь, маўляў, могуць хутка прыняць у Эўразьвяз. Мы ведаем цану такіх спадзяваньняў і ведаем, каму выгадны свабодны рух капіталаў і рабочай сілы ў той час, калі мы, зьнясіленыя рэжымам і яго даўгамі, будзем ляжаць. Адток «мазгоў» (галоўнай цяпер вытворчай сілы) і вынікі гэтага адтоку мы адчуваем ўжо зараз і ўвесь час.

Альтэрнатывай антыбеларускаму рэжыму і нацыянальнай сьмерці ёсьць добрая будучыня людзей. Дзеля добрай будучыні варта змагацца. Добрая будучыня – гэта вольны чалавек, гарантаваная праца, забясьпечаная старасьць. Гэта адсутнасьць трывогі за заўтрашні дзень. Добрая будучыня – гэта павага да чалавека і да ўсіх людзей. Гэта сьвет, дзе ўлада не крычыць, не хаміць, не зьневажае, не плюе на народ, на культуру і мову Гэта сьвет, дзе беларускі грамадзянін можа вольна рабіць, купляць і прадаваць. Гэта сьвет, дзе шануюць сям'ю і працу, дзе ўлада выконвае свае законы, і ўсе роўныя перад законам. Гэта сьвет, дзе шануецца жыльлё чалавека, яго перапіска і ўнутраны сьвет. Гэта грамадзтва, дзе ветлівая паліцыя дапамагае людзям, дзе дзяржаўная мэдыцына ёсьць домам здароўя, а ня сродкам нажывы, дзе высокі ўзровень адукацыі ў школе, дзе людзкае тэлебачаньне без брыдоты і хлусьні. Гэта сьвет, які радуецца і ўсміхаецца, які сьпявае і гаворыць па-беларуску. Гэта сьвет, дзе жыве сьветлая Беларусь.

Гісторыя паказвае, што лёсам дзяржаваў, краінаў займалася і клапацілася невялікая колькасьць людзей – эліта грамадзтва. Ад іх, перш за ўсё, залежыць будучыня народа, на падтрымку якога яны разьлічваюць. Тут павінна ствараецца, перш за ўсё, беларускае гуртаваньне і беларуская пэрспэктыва. І калі тут тое будзе – людзі падтрымаюць. Адсюль павінна зыходзіць разумная беларуская праца, асьвета, арганізацыя і змаганьне.

*Зянон Пазьняк*

# Праблемы вакол «Беларуськалія»

Прыканцы ліпеня «Уралкалій» спыніў экспартны продаж калійных угнаеньняў праз эксклюзіўнага пастаўшчыка — «Беларускую калійную кампанію» (БКК) — і вызначыў адзіным каналам збыту сваёй прадукцыі – сваю кампанію «Уралкалій-Трэйдынг». Расейскі бок абвінавацiў беларусаў у парушэньні дамоваў і несанкцыянаванай адгрузцы сыравіны ў абыход партнэраў. Прычынай такога рашэньня, як заявіў генэральны дырэктар «Уралкалія» Уладзіслаў Баумгертнэр, стаў указ прэзыдэнта Беларусі ад 22 сьнежня мінулага года пра тое, што «Беларуськалій» можа прадаваць прадукцыю ня толькі праз БКК, але і праз незалежных трэйдэраў, не афіліяваных з БКК, і не ўзгадняючы ні аб'ёмы, ні цэнавыя парамэтры. "Фактычна, так стваралася ўнутраная канкурэнцыя", — тлумачыць сытуацыю гендырэктар «Уралкалія».

Раней «Уралкалій» разам зь «Беларуськаліем» прытрымліваўся агульнай стратэгіі «кошт важней за аб'ёмы». Беларуская калійная кампанія, праз якую абодва гіганты ўзгоднена прадавалі сваю прадукцыю, трымала дастаткова высокія кошты на ўсясьветным рынку. І гэта задавальняла абодвух партнэраў.

Аднак цяпер «Уралкалій» заяўляе пра зьмену стратэгіі — на першы плян выходзіць ня кошт угнаеньняў, а іх аб'ёмы. У. Баўмгертнэр сьцьвярджае, што гэта вымушаны крок, на які іх падштурхнулі дзеяньні беларускіх уладаў.

Беларускі палітоляг-эканаміст Зьміцер Балкунец, які цягам апошніх гадоў працуе ў Маскве, кажа, што вэрсія аб невыкананьні беларускім бокам сваіх абавязаньняў — толькі адна з трох, якія тлумачаць тое, што здарылася::

«Другая вэрсія зьвязаная з тым, што ў свой час «Уралкалій» прэтэндаваў на куплю пакета акцыяў «Беларуськалія». Але беларускія ўлады то завышалі цану, то пагаджаліся, то не пагаджаліся. Карацей, сутнасьць другой вэрсіі ў тым, што «Ўралкалій» быў зацікаўлены ў беларускіх акцыях, але зразумеў, што гэта бессэнсоўна і беспэрспэктыўна. І таму вырашыў наагул адмовіцца ад супрацы зь «Беларуськаліем».

Трэцяя вэрсія, на думку спадара Балкунца, была б самай непрыемнай для беларускіх уладаў:

«Паводле трэцяй вэрсіі, матывы цяперашніх дзеяньняў „Уралкалія" — абваліць кошт і акцыі „Беларуськалія". Але я думаю, што гэта малапэрспэктыўная задума. Па-першае, на гэта трэба патраціць вельмі шмат сваіх рэсурсаў. І другі мінус гэтай ідэі — у тым, што, як мне падаецца, беларускія ўлады ні ў якіх умовах ня пойдуць на продаж „Беларуськалія". Гэта — стратэгічны аб'ект беларускай эканомікі. Нават калі ўладам ня будзе хапаць грошай, яны наўрад ці пагодзяцца на продаж гэтага аб'екта».

Канфліктная сытуацыя істотна ўплывае на сусьветны рынак хлорыстага калія, яна можа прывесьці да значнага абвалу цэнаў. Бальшыня экспэртаў схіляецца да думкі, што ўжо ў 2014 годзе кошт адной тоны калійных угнаеньняў можа скараціцца зь цяперашніх 400 даляраў за адну тону да 300.

Новыя ўмовы гаспадараньня непазьбежна адаб'юцца ня толькі на эканамічным становішчы прадпрыемства, а і на ўсім бюджэце Беларусі. «Беларуськалій» — адзін з асноўных пастаўшчыкоў валюты ў дзяржаўную скарбонку: па выніках 2012 году ад продажу мінэральных угнаеньняў паступіла каля 3 мільярдаў даляраў, або блізу 270 мільёнаў даляраў кожны месяц. Але сёлета гэтыя лічбы могуць быць істотна адкарэктаваныя. А калі так пойдзе далей, то ўжо ў наступным годзе бюджэт Беларусі недалічыцца больш за мільярд даляраў.

Цяпер беларускі ўрад намагаецца вярнуць страчаныя пазыцыі, сьпешна шукаючы новых партнэраў. Так, паведамляецца, што падпісалі пагадненьне аб сумесным продажы мінэральных угнаеньняў з катарскай кампаніяй «Muntajat», а таксама вымалёўваецца лінія на стратэгічнае супрацоўніцтва з кампаніяй «Ser-trading» з Сан-Паўлу, каб пастаўляць прадукцыю на бразыльскі рынак.

Перамовы паміж «Беларуськаліем» і «Уралкаліем» зайшлі ў тупік. Расейцы кажуць, што першымі парушылі пагадненьне беларусы. Беларускі бок сьцьвярджае, што парушальнікамі сталі расейцы. Гэта цьмяная гісторыя мела свой нечаканы працяг.

26 жніўня ў Менску быў арыштаваны генэральны дырэктар «Ўралкалія» Уладзіслаў Баўмгертнэр, які наведваў Беларусь па запрашэньні прэмьер-міністра Міхаіла Мясьніковіча дзеля перамоваў. Перамовы скончыліся для расейскага госьця кайданкамі, і да сёньня ён знаходзіцца ў беларускай турме. Улады Беларусі абвінавачваюць Баўмгертнэра ў нанясеньні шкоды інтарэсам Беларусі з-за палітыкі "Уралкалію" ў памеры больш за 100 млн. даляраў. У міжнародны вышук таксама аб'яўлены адзін з акцыянэраў "Уралкалію" Сулейман Керымаў.

Тым часам сваім указам ад 5 верасьня Лукашэнка стварыў яшчэ адну «Беларускую калійную кампанію». Экспартнымі пастаўкамі калійных угнаеньняў цяпер будзе займацца новая структура, ужо толькі беларуская — ААТ «Беларуская калійная кампанія». Наколькі гэта выратуе «Беларуськалій» ад мяркуемых стратаў, пакажа будучыня.

*Ганна Сурмач*



# Дыскусія: Будучыня беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы – праблемы і выклікі

*Новую рубрыку мы распачынаем тэкстам выступу Алесі Кіпель – старшыні Гуртка БАЗА ў Вашынгтоне на Шостым зьезьдзе беларусаў сьвету.*

## Параўнаньні і досьвед зьмены хваляў і пакаленьняў беларусаў у Амэрыцы

Я нарадзілася ў ЗША, у горадзе Балтымар, доўгі час жыла ў штаце Нью-Джэрзі, каля Нью-Ёрка. Скончыла Прынстанскі ўнівэрсытэт, а таксама юрыдычны факультэт у Вашынгтоне, дзе жыву і працую больш за 30 гадоў. Мае бацькі разам са сваімі бацькамі выехалі зь Менска падчас Другой сусьветнай вайны. Я - старшыня Вашынгтонскага гуртка Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА). На зьезьдзе я выступаю як дэлегат ад нашага Гуртка і Галоўнай управы БАЗА.

Маю тэму — “Параўнаньні і досьвед зьмены хваляў і пакаленьняў беларусаў у Амэрыцы” я б хацела пачаць з разгляду галоўных, на маю думку, асаблівасьцей беларускай пасьляваеннай іміграцыі ў Амэрыку, то бок іміграцыі пасьля 1945 года і да канца 1950-х гадоў.

1. Ад 1948 да канца 1950-х гадоў па квоце “ДП” прыехала каля 400 тыс. чалавек, з іх ад 50 да 75 тысяч беларусаў. У такі кароткі пэрыяд гэта сапраўдная хваля.

2. У той хвалі шмат прыязджалі сем’ямі — два ці тры пакаленьні.

3. Хваля характарызавалася вельмі шырокім дыяпазонам, як сацыяльным, так і прафэсійным.

4. Імігранты былі фактычна ўцекачамі — пакідалі Радзіму і думалі, што ніколі ня вернуцца ў Беларусь.

5. Амаль усе былі палітычнымі эмігрантамі.

6. Амаль усе былі выключна беларускамоўнымі.

7. Многія з тых імігрантаў гадаваліся пад рэлігійным уплывам.

8. У ЗША яны пасяляліся пераважна ў вялікіх гарадах або блізка да такіх гарадоў — жылі даволі густа разам. Грамада, грамадзкае жыцьцё былі вартасьцямі, якія стаялі высока.

Зірнем на рысы новых імігрантаў:

1. Колькасьць імігрантаў сёньня значна меншая, чым у пасьляваенны час. Пры гэтым іміграцыйны працэс цяпер значна даўжэйшы. “Новыя” імігранты пачалі прыязджаць зь Беларусі ў канцы 1970-х гадоў, а зь Беласточчыны — яшчэ раней, і іміграцыйны паток працягваецца да сёньня.

2. “Новыя” імігранты прыязджаюць амаль усе паасобку, а не сем’ямі.

3. Сёньняшнія імігранты пераважна маладыя, мала знаёмыя з грамадзкімі рухамі, амаль не дасьведчаныя ў лідарстве.

4. У большасьці яны трымаюць сувязі з Бацькаўшчынай, хоць да канца ня вызначылі для сябе, ці будуць вяртацца.

5. На маю думку, сучасных імігрантаў можна характарызаваць як палітычных і як эканамічных.

6. На жаль, шмат новых імігрантаў расейскамоўныя. Мала хто вольна валодае беларускай мовай.

7. Для пераважнай большыні царква або касьцёл — паняцьці незнаёмыя.

8. Расьсяляюцца “новыя” імігранты вельмі шырока, і ў іх не заўважаецца ахвоты ствараць беларускія асяродкі.

Таму відавочна, што адрозьненьняў паміж гэтымі дзьвюма групамі шмат, а супольнага значна менш. І такі стан стварае вялікую праблему. Калі разглядаць будучыню беларусаў у Амэрыцы (гэта значыць дзейнасьць “новай” іміграцыі) у параўнаньні з апошнімі 50 гадамі XX стагодзьдзя, аналіз ня будзе для нас прывабны. Тым ня менш трэба паставіць пытаньне пра тое, ці можна ўсё ж спадзявацца на пасьпяховую беларускую дзейнасьць у Амэрыцы. Пры гэтым я дадам і такое пытаньне: ці мелі мы, беларусы, нешта такое раней, з чаго б мы маглі навучыцца? І калі ў нас бракуе такога досьведу, то якім іншым досьведам мы маглі б скарыстацца?

Я тут вылучыла восем асноўных адрозьненьняў. Але сярод іх ёсьць больш і менш важныя. Я б сказала, што самыя важныя — гэта лідарства, мова і грамадзкая згуртаванасьць. Пасьпяховая каардынацыя гэтых трох элемэнтаў абумовіць пазытыўную дзейнасьць беларусаў у ЗША. Я думаю — нават упэўненая, — што цяжкасьці можна перамагчы, калі будзе ахвота, або, правільней сказаць, грамадзкая дысцыпліна. Такую магчымасць я дапускаю, грунтуючыся на веданьні балтыйскіх групаў, дзе цяжкасьці былі большыя, чым у беларусаў.

Калі я пачала рыхтаваць свой даклад, вядома, я прагледзела кнігу майго бацькі Вітаўта Кіпеля “Беларусы ў ЗША”. Мяне асабліва цікавіла справа яшчэ ранейшых беларускіх імігрантаў — перад вайной. Ці былі прыклады зьмен хваляў і пакаленьняў? Ці былі пакаленьні, падобныя да сёньняшніх імігрантаў? І я знайшла недакладную паралель, але значна бліжэйшую, чым паралель паміж сёньняшнімі “старымі” і “новымі” імігрантамі, дзе паралеляў практычна няма. Сітуацыя ў Чыкага з 20-х па 50-я гады мае важныя аналягі.

У Чыкага ў 20-х гадах беларускае асяродзьдзе выкарыстоўвала тры мовы: расейскую, беларускую і ангельскую. У газэце, якая выдавалася беларусамі для беларусаў, выкарыстоўваліся ўсе тры мовы. Неяк з гэтым у той час пагалася, БНР была агульнай плятформай. Мы, беларусы, цяпер у Амэрыцы таксама выкарыстоўваем тры мовы: беларускую, ангельскую і расейскую. Якая мова для каго першая, у многім вызначаецца пакаленьнем. У двух пакаленьнях — тых, каму 65 і больш гадоў, — першая мова беларуская. У тых, каму 20 гадоў і менш, першая мова ангельская. У тых, каму 21-64, першая мова або ангельская, або расейская, у залежнасьці ад таго, дзе чалавек нарадзіўся.

Такім чынам, праблемы пачынаюцца з таго, што:

1) мала хто валодае ўсімі трыма мовамі;

2) у пакаленьнях, дзе кіраўнікамі мусілі б быць людзі ад 35 да 65 гадоў, мала хто вольна валодае беларускай мовай;

3) у вышэйпамянёных пакаленьнях, акрамя таго, няма і адзінай агульнай мовы, на якой ім было б лёгка кантактаваць: тыя, што нарадзіліся ў Амэрыцы, не размаўляюць па-расейску, а народжаныя ў Беларусі пераважна слаба размаўляюць па-ангельску. Ёсьць і выключэньні, але брак супольнай мовы перашкаджае.

Калі ж гутарка ідзе яшчэ і аб пісьмовай мове, дык выглядае, што сытуацыя яшчэ складанейшая. Бо пішам мы тут па-рознаму: па-беларуску тарашкевіцай, наркамаўкай, ламанай лацінкай на камп’ютарах, а яшчэ па-расейску і па-ангельску. Пісьменнага беларускага правапісу цяжка знайсьці. Мы ў Вашынгтоне, высокаадукаваныя, адзін аднаго папраўляем. Кароценькі артыкул у газэту “Беларус” пройдзе праз тры карэктуры, а здольнасьць карэктаваць тэксты маюць толькі нямногія з нас.

Але, я думаю, што праблему моваў можна вырашыць, калі ў Беларусі беларуская мова будзе выкарыстоўвацца і калі будуць трымацца кантакты праз акіян. Было б добра, калі б у ЗША існавалі беларускія суботнія школы ці летнікі, дзе мову можна было б вывучаць. Але на практыцы гэта цяжка, бо людзі раскіданыя па краіне, настаўнікаў амаль няма і моцнай моўнай традыцыі не існуе. І ў гэтым мы адрозьніваемся ад іншых групаў, такіх як балты, палякі і іншыя, дзе ёсьць ахвота перадаваць моўную традыцыю. Таму важна, каб нашыя беларускія арганізацыі ў ЗША працягвалі трымацца беларускай мовы, нават калі ў яе выкарыстаньні ёсьць цяжкасьці. Канечне, трэба быць рэалістамі і ўсведамляць, што некаторыя будуць ужываць ангельскую і расейскую мовы.

Пра наш боль з прычыны малой і раскіданай колькасьці людзей я ўжо бегла згадала. Аднак, яшчэ раз падкрэсьлю, што мы мусім старацца перамагчы праблему: можа, зьбірацца раз на месяц, трымаць сувязь праз тэлефон ці skype, шукаць “схаваных” землякоў. І я думаю, што дапамога “новых” імігрантаў вельмі важная. Рэч у тым, што пасьляваенная хваля заснавала многа арганізацыяў — зь іх дзейныя каля дзесяці, калі не лічыць цэркваў. Напрыклад, БАЗА існуе ўжо 64 гады, мае аддзелы/гурткі на абодвух берагах ЗША, і да іх далучаюцца новыя.

Вельмі плённы спосаб павялічваць лік сяброў у БАЗА — гэта якраз нашыя гурткі — менш фармальныя структуры ў месцах, дзе менш беларусаў, як у Вашынгтоне ці Флярыдзе. Цяжкасьць у тым, што гэтым гурткам няма дзе зьбірацца. Таму ў падтрымцы беларускіх арганізацыяў важную ролю граюць, сярод іншага, будынкі цэркваў.

Ёсьць, вядома, і новыя арганізацыі, але іх меней. Часам яны працуюць разам са старэйшымі арганізацыямі, а іншым разам бываюць спрэчкі. Думаю, што зь цягам часу спрэчак будзе меней і меней. Так і было ў Чыкага. І важна зазначыць, што пры зьмене хваляў і пакаленьняў у Чыкага ў сярэдзіне XX стагодзьдзя, у час, калі пасьляваенныя імігранты былі “новыя”, арганізацыямі, якія перажылі тую зьмену, былі якраз тыя, што былі сапраўднымі беларускімі і ў якіх былі найлепшыя лідары.

І цяпер я перайду да самага важнага пункту: кіраўніцтва і арганізацыйнае жыцьцё ў ЗША.

Ясна, што без адпаведных кіраўнікоў і лідараў усё можа заняпасьці. Таму “старыя” імігранты заклапочаныя тым, каб перадаць арганізацыі маладым. Але, на жаль, лідараў, лідарскіх кадраў сярод маладзейшых імігрантаў амаль няма.

Праўда, сярод дзяцей старых імігрантаў ёсьць людзі, якія могуць быць кіраўнікамі, але ў іх здольнасьці — і ахвоты — весьці беларускія арганізацыі няма. Шчыра кажучы, мова ім перашкаджае. Так атрымалася, што момант быў прапушчаны. Каб маё пакаленьне дасьпела, калі пачаліся бліжэйшыя кантакты з Бацькаўшчынай, можа, было б інакш.

Таму трэба рыхтаваць лідараў з новых імігрантаў, каб яны маглі быць кіраўнікамі арганізацыяў, такіх як БАЗА і іншыя. Было б ідэальна, калі б былі бліжэйшыя сувязі паміж імі і іхнымі аднагодкамі, народжанымі ў Амэрыцы. Я лічу, што будучыня і пасьпяховасьць беларускай дзейнасьці ў ЗША можа быць толькі ў сымбіёзе маладзейшых амэрыканцаў і “новых” імігрантаў зь Беларусі.

Як прыклад, прывяду Вашынгтон, дзе мы дзейнічаем разам — амэрыканскія беларусы і “новыя” іміграны. Праўда, нам пашанцавала: у Вашынгтон прыяжджаюць дасьведчаныя і здольныя людзі, і ў нас зь імі ёсьць нешта супольнае. І дадам: мець яшчэ штосьці супольнае ў дадатак да таго, што мы ўсе беларусы, вельмі важна для таго, каб мець моцныя арганізацыі.

І закончу я сваё выступленьне на такой ноце: беларуская арганізацыйная дзейнасьць у ЗША будзе працягвацца. І гэта нармальна, бо мы, беларусы — частка падмурку Амэрыкі — гістарычная частка, і сучасная, і вечная. Але, падкрэсьлю, што беларускія праблемы ў ЗША такія самыя, як на Бацькаўшчыне. І тым ня менш, беларускую спадчыну мы захоўваем і ганарымся ёй.

# Што варта рабіць, каб мы сталі пасьпяховымі і заможнымі?

## *Юрась Зянковіч: развагі на тэму дыскусіі*

У сучасным сьвеце дыяспара можа быць карыснай сваёй краіне дзьвюма рэчамі: палітычнай падтрымкай у краіне знаходжаньня і інвестыцыямі.

На маю думку, перш чым займацца палітычным лабізмам беларускіх інтарэсаў у Амэрыцы, мы мусім стаць заможнымі ў фінансавым пляне. Урэшце рэшт лабізм – гэта досыць спэцыфічная прафэсія, якой мусяць займацца адмыслоўцы. Сярод нас ёсьць людзі патэнцыйна здольныя весьці такую працу, але яны занятыя іншым – выжываньнем і заробкам на хлеб штодзённы. Каб іх вызваліць ад гэтага, мы мусім быць у стане забясьпечыць ім фінансавае ўтрыманьне. А мы зараз гэтага зрабіць ня можам.

Такім чынам, перш чым ставіць палітычныя задачы перад дыяспарай, мы мусім паставіць задачы эканамічныя – нам трэба стварыць групу заможных, неабыякавых да Беларусі прафэсіяналаў і бізнэсоўцаў, якія затым добраахвотна возьмуць на сябе абавязак фінансаваць беларускую палітыку ў Амэрыцы.

А дзеля гэтага мы павінныя стварыць умовы для асабовага росту кожнага з нас. Мы мусім навучыцца трымацца адзін за аднога і дапамагаць адзін аднаму.

Я б сказаў, што нашая дыяспара ў Амэрыцы ня ў стане ставіць палітычныя задачы на бліжэйшыя 10-15 год – пакуль мы ня выгадуем пасярод сябе групу заможных мэцэнатаў беларускай прысутнасьці ў ЗША. І пачынаць гэта трэба ўжо сёньня, бо заўтра будзе позна.

Зараз ідзе абмеркаваньне таго, чым павінныя ў бліжэйшы час займацца беларускія арганізацыі ў Амэрыцы. Сярод прапановаў гучаць, часьцей за ўсё, ідэі пра тое, як бавіць вольны час. Не памяншаючы неабходнасьці падтрымкі беларускай культуры ў ЗША з дапамогай цікавага баўленьня вольнага часу, я ўсё ж рызыкну запрапанаваць, што на першае месца мы мусім паставіць тыя праекты, якія дазволяць новапрыбылым (ды й даўнапрыбылым) беларусам забясьпечыць асабовы рост.

Пачнем зь неабходасьці курсаў ангельскай мовы. Ці трэба казаць лішні раз, наколькі веданьне мовы нашай новай краіны важнае дзеля посьпеху? Але далёка ня ўсе сярод нас валодаюць ёй на дастатковым узроўні. Курсы ангельскай мовы мусяць зьявіцца ў кожным беларускім асяродку. Дарэчы, вельмі часта пад гэта можна атрымаць фінансаваньне ад мясцовых уладаў ці ад уладаў штату – яны таксама зацікаўленыя ў хутчэйшай інтэграцыі новапрыбылых у грамадзтва.

Наступны крок – стварэньне сыстэмы ўзаемадапамогі ў пошуку працы. Сярод нас ёсьць ня толькі прадстаўнікі працоўных прафэсіяў ці гуманітарыі, але таксама і бізнэсоўцы, якім патрэбныя саліднія працаўнікі. Між іншым, вядучую ролю ў гэтым праекце павінна б была граць нашая газэта “Беларус” – трэба стварыць адпаведны разьдзел на сайце, дзе можна будзе зьмясьціць абвесткі, і пачаць іх друкаваць у папяровым выданьні. Гэткая газэта мусіць рассылацца, у першую чаргу, па бізнэсах, якія належаць беларусам ці выхадцам зь Беларусі – нават першы час бясплатна. Апроч крыніцы аб'яваў пра працоўныя месцы, гэта можа даць хай і невялікі, але даход ад рэклямы, калі бізнэс зразумее, што нашую газэту чытаюць беларусы, якія могуць стаць іх кліентамі.

Таксама варта разважыць стварэньне сваіх агенцыяў па працаўладкаваньню – магчыма сумесна зь мясцовай уладай, якая з задавальненьнем пойдзе насустрач такой ініцыятыве, і можа нават дапаможа грашыма.

Трэцяе – гэта адукацыя. Без адукацыі немагчыма здабыць пачэснае месца ў амэрыканскім грамадзтве. Кожнага новапрыбылага трэба арыентоўваць на тое, што трэба існці вучыцца і падвышаць свой узровень ведаў. Беларускія асяродкі маглі б усталяваць кантакты зь мясцовымі вучэльнямі (коледжы, унівэрсытэты), каб сумесна арганізоўваць прээзнтацыі вучэбных праграмаў. Яны пойдуць насустрач, бо гэта для іх крыніца дадатковых прыбыткаў.

У пэрспэктыве бліжэйшых 5-7 год я б хацеў, каб у беларускім асяродку зьявіўся наш уласны Credit Union. Дзеля яго стварэньня не патрэбныя надта вялікія грошы (для пачатку працы дастаткова пісьмовай гарантыі на паўмільёна даляраў), а сьпэцыялістаў у галіне банкаўскай дзейнасьці ў нас, прынамсі ў Нью-Ёрку, хапае. Не хапае толькі арганізатара і пачатковых укладчыкаў капіталу. Стварэньне такога саюза дазволіць палепшыць доступ беларускіх іммігрантаў да крэдытных рэсурсаў, дасьць новыя месцы працы і крыніцу стабільнага прыбытку, які можа быць выдаткаваны на падтрыманьне існуючай інфраструктуры маёмасьці беларускіх цэнтраў.

Ну і нарэшце – мараторый на любыя сваркі ў нашым асяродзьдзі. Нас ня так шмат, каб мы маглі дазволіць сварыцца паміж сабой. Нашыя палітычныя разыходжаньні ці асабістыя амбіцыі не павінныя адбівацца на нашых узаемных дзелавых адносінах. У нас ва ўсіх адна мэта – посьпех кожнага з нас як асобы, посьпех беларускай дыяспары і посьпех нашай краіны.

# Дзе была праская друкарня Скарыны?

Калі ў 90-я гады Радыё Свабода пераехала ў Прагу, мне давялося трапіць з адным з чэскіх беларусістаў Мілаславам Зімам на Страмесцкі пляц у цэнтры чэскай сталіцы. Памятаю, як я аслупянеў, калі спадар Зіма проста і без эмоцыяў паказаў на адзін з дамоў і сказаў, што тут, на другім паверсе, была друкарня Скарыны...

Прайшло шмат гадоў, няма ўжо на сьвеце Міласлава Зімы, а я ўсё не магу сунясць хваляваньня, калі падыходжу да гэтага дому або прыводжу туды гасьцей і сяброў. І яшчэ больш хваляваньня надае думка пра тое, што Скарына бачыў амаль усе навакольныя дамы, храмы і вулкі, бо яны тады ўжо былі.

Сам дом, дзе была друкарня, пабудаваны ў 1371 годзе. За сваю доўгую гісторыю ён зьмяніў ня менш за пяць назваў (такая ў чэхаў традыцыя — даваць дамам назвы). З гістарычных мне найбольш падабаецца «U Zlatého pelikana». Але да XXI стагодзьдзя дайшлі дзьве назвы, якія абедзьве цяпер выкарыстоўваюцца. Гэта «U čapu» і «U bílého anděla». Першая зь іх зьвязана з тым, што некалі на франтоне былі намаляваныя буслы, а другая, магчыма, з паданьнем, што некалі там зьяўляўся белы прывід маладое маці, якая коштам свайго жыцьця ўратавала сына і, як анёл-ахоўнік, блукала па доме, пакуль сын не дасягнуў паўналецьця.

Першапачаткова гатычны гэты дом у XVI стагодзьдзі перабудавалі ў стылі Рэнэсансу, а ў XVII стагодзьдзі — у стылі Барока. Таму сёньня ў зьнешнім выглядзе будынак колішняй друкарні спалучае прыкметы ўсіх трох стыляў.



Вось гэты шэра-зялёны дамок. Так ён выглядае ў фронце забудовы паўднёвага боку Стармесцкага пляцу Прагі.

Сяргей Абламейка
Паводле Радыё свабода,06.08.2013

# Да 45–й гадавіны ўварваньня савецкіх войскаў у Чэхаславакію



Валер БАРТАШ

## Негераічныя ўспаміны

24 жніўня 1968 году мотастралковы полк, дзе я служыў, перайшоў дзяржаўную мяжу Чэхаславакіі з боку Венгрыі. Да малейшых падрабязнасьцяў засталося ў памяці ўсё, што папярэднічала гэтаму. Невялікая паляна, аброслая кустоўем. Пастраеньне асабовага складу па ротах. У страі сталі салдаты розных нацыянальнасьцяў, у большыні каўказцы і сярэднеазіяты. Камандзір зачытаў загад міністра абароны СССР, у якім гаварылася, што ў выпадку нападу на нас дазвалялася адкрываць агонь на зьнішчэньне. Стаяла цішыня. Ва ўсіх была адна думка – гэта нешта сур'ёзнае. "Раптоўна захварэў" салдат-грузін.

Наша рота забясьпечвала рэгуляваньне руху калёны. Рэгуліроўшчыкі са сваімі жэзламі стаялі адкрытыя, неабароненыя і гэта ўмацоўвала пачуцьцё небясьпекі.

Моўчкі, без звычайнай мітусьні, атрымалі патроны і зарадзілі імі аўтаматы. Прагучала каманда: "Па машынах!" Зараўлі маторы бронетранспарцёраў. У 7 гадзін вечара полк перайшоў чэхаславацкую мяжу. Бясконцай грамыхаючаю стальною стужкаю, разьбіваючы дарожнае пакрыцьцё, рушылі танкі, самаходныя аўтаўстаноўкі – 100 мм. САУ з латкамі на брані, якія засталіся пасьля вайны, зенітکі, палявыя кухні, аўтамашыны, нагружаныя боепрыпасамі, аўтацыстэрны і розны іншы вайсковы скарб.

У гэты дзень пайшоў чацьвёрты год маёй вайсковай службы – жорсткая расплата за юнацкую лёгкадумнасьць. Наперадзе былі маршы, блякіроўка часткаў чэхаславацкага войска. Насельніцтва выказвала незадаволенасьць, але ўзброенага супраціву не было, і гэта чамусьці спараджала ўва мне пачуцьцё радражнёнасьці і нават неразуменьня.

Пасьля заканчэньня апэрацыі наша дывізія засталася ў Чэхаславакіі, а мы – дэмбелі, у халодных вагонах накіраваліся дамоў. Памятаюцца словы сяржанта-масквіча: "Шкада, што па жывых мішэнях не пастралялі".

Памежная станцыя Чоп, прыгажун Львоў — свой, але ня родны. 30 сьнежня, раньняя раніца. Севастопаль, прывітаньне, мора! Марскі патруль чатырма парамі вачэй упёрся ў мае салдацкія пагоны. Салютую ім са словамі: "Прывітаньне, салабоны!" Фізіяноміі маракоў выцягнуліся – во якое хамства, ды яшчэ ад салдата, але мічман, камандзір патруля, быў здагадлівым хлопцам, зразумеў, адкуль я вяртаюся, і махнуў рукою.

Вось я і дома. Асьветлены радасьцю твар маці, стрыманыя абдымкі бацькі – сын вярнуўся.

Прайшло 45 гадоў. Часам я ўключаю інтэрнэт і гляджу хроніку "Чэхаславакія-1968". Гляджу з сумам чалавека, які згадвае маладыя гады, калі здавалася, што ўсё жыцьцё яшчэ наперадзе. Бачу на экране салдатаў у гімнасьцёрках, натоўпы людзей, мільгаюць твары палітыкаў... Я быў там, дзякую лёсу, што мяне не атруцілі вадою ці півам, не забілі на варце і, самае галоўнае, што мне не давялося страляць па жывых мішэнях на зьнішчэньне.

Я даўно ўжо забыў імёны камандзіраў і салдатаў, я не пэрсаніфікую на сябе віну за акупацыю Чэхаславакіі, я проста выконваў свой абавязак вайскоўца.






Але ёсьць імя чалавека, успамін пра якога не пакідае мяне, і я маю пачуцьцё, што вінаваты ў ягонай гераічнай і пакутлівай сьмерці.

Ян Палах, амаль мой раўналетак. У думках я дакранаюся рукою да каменя на Вацлаўскай плошчы ў цэнтры Прагі, дзе ён у знак пратэсту супроць той акупацыі палыхнуў факелам Свабоды і прашу : "Даруй, Ян!".

Ганна СУРМАЧ

## Сумныя успаміны

З нагоды гадавіны падзеяў у Чэхаславакіі ў 1968 годзе ў мяне таксама абудзіліся свае невясёлыя ўспаміны. Вядома, я не брала ўдзел у той акцыі, але наступствы яе пабачыць і адчуць давялося і мне асабіста.

Напярэдадні Калядаў 1984 году нарэшце мне ўдалося вылецець з Масквы ў Прагу. Гэты візыт быў вынікам двухгадовых высілкаў, якія давялося прыкласьці мне і шмат іншым людзям, каб нарэшце паехаць туды і забраць асабісты архіў вядомага беларускага сьпевака Міхася Забэйды, ён жыў і памёр у гэтым старажытным горадзе. У сваім тэстамэнце ён пажадаў, каб ягоная дакумэнтальная спадчына была перададзеная ў адзін з музэяў Беларусі. Я тады працавала дырэктарам Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музэя літаратуры і мастацтва, і менавіта нам было адрасавана гэтае жаданьне знакамітага опэрнага і канцэртнага сьпевака, які пакінуў Радзіму пад час Першай усясьветнай вайны ва ўзросьце недзе 15 гадоў, але праз цэлае доўгае жыцьцё на чужыне не забываўся на свае беларускія карані.

Каб практычна рэалізаваць справу, спатрэбілася шмат дазволаў, найперш ад усясільнага тады яшчэ ЦК кампартыі Беларусі. Вельмі істотна дапамог здабыць гэты дазвол тадышні супрацоўнік аддзела культуры, а цяперашні адзін з выбітных беларускіх паэтаў майго пакаленьня Сяргей Законьнікаў, якому і да сёньня я вельмі ўдзячная. А потым трэба было зьвярнуцца да Галоўнага архіўнага упраўленьня ў Маскве. І вось там вынайшлі такую магчымасьць – у рамках супрацоўніцтва з архівамі Чэхаславакіі накіраваць туды дэлегацыю ад архіваў СССР для вывучэньня вопыту працы. У склад дэлегацыі ўключылі мяне і прадстаўніцу архіваў Арменіі. Але галоўная мая задача была – забраць архіў Забэйды.

У Празе нас сустрэлі прадстаўнікі Архіўнага упраўленьня Чэхаславакіі, прыём быў дружалюбным, нас засялілі ў адзін з камфортных гатэляў у цэнтры Прагі, на Вацлаўскай плошчы, і пакінулі адных, дамовіўшыся, што назаўтра раніцаю па нас прыедуць. Было яшчэ далёка да вечара, у гатэлі не сядзелася, і мы пайшлі знаёміцца з Прагаю. Абедзьве мы былі там упершыню, ведалі, што гэта сяброўская краіна і з добрым настроем хадзілі па горадзе. Але хутка заблудзіліся сярод старажытных вузкіх вуліц, ніякай мапы ня мелі і пачалі дапытвацца ў мінакоў, як трапіць назад у гатэль. Вядома, пыталіся па-расейску, бо нам перад вылетам сказалі, што чэхі добра разумеюць гэту мову. І тут мы поўнасьцю адчулі наступствы той савецкай інвазіі 1968 году, хаця прайшло ўжо больш за 16 гадоў. Ніхто не хацеў нам дапамагчы. Усе адварочваліся, а той, хто ахвотна паказаў дарогу, як аказалася, скіраваў нас у адваротным накірунку. У крамах не жадалі паказваць тавар, дэманстратыўна адварочваліся. Ад нашага добрага настрою не засталося і сьледу. Нарэшце, калі ўсё ж неяк знайшлі свой гатэль і я папрасіла ключ ад пакоя, які здала перад адыходам, мне сказалі, што ключа няма. Пасьля доўгага чаканьня давялося паказаць характар і ключ адразу знайшоўся, бо дзе ж было начаваць.

На душы было прыкра. Але пачуцьцё крыўды паволі адыходзіла. Я сказала сваёй спадарожніцы, што мы павінны даравать чэхам такія адносіны, бо тая краіна, якую мы тут прадстаўляем, фактычна акупавала Чэхаславакію ў 1968 годзе і перапыніла бурную плынь Пражскай вясны, што несла добрыя надзеі для гэтага шматпакутнага народу. Мы абедзьве пагадзіліся, што напэўна і мы ўсе, так званыя савецкія людзі, вінаватыя, што не пратэставалі шырока супроць гэтай брутальнай акцыі. Чэхаў тады я моцна запаважала.

Можа, гадоў праз дзесяць пасьля ў Маскве я пазнаёмілася з былым старшынём КДБ Беларусі пад час перабудовы Эдуардам Шыркоўскім, які прыняў перамены, і пры ім нават быў адчы-

нены доступ да архіваў рэпрэсаваных. Пасьля сыходу з органаў ён перабраўся у Расею і спрабаваў далучыцца там да беларускага грамадзкага жыцьця, у гэтай сытуацыі мы і пазнаёміліся. Ён тады згадваў пра тое, што таксама браў удзел у чэхаславацкай акцыі. Абураўся, як гэта было брутальна, калі праз старажытную Прагу, як нож праз масла, прайшла некалькітысячная савецкая танкавая армада. Танкі зносілі пабудовы, душылі людзей на вуліцах. Уся гэтая магутная сіла праз Прагу накіравалася да мяжы з Нямеччынаю, бо саветы баяліся, што ў абарону Чэхаславакіі выступяць заходнія краіны. Войскі так званай Варшаўскай дамовы прыпыніліся на нямецка-чэхаславацкай мяжы, і тут пазьней быў пабудаваны моцны абаронны комплекс.

Яшчэ праз наступныя пяць гадоў мне давялося пабачыць на ўласныя вочы гэтыя вайсковыя збудаваньні на нямецка-чэскай мяжы. Цягам сямі месяцаў я жыла ва ўцякацкім лягеры ў тых мясьцінах у чаканьні на палітычны прытулак у Чэхіі пасьля ўцёкаў зь Беларусі. Лягер быў разьмешчаны на былой савецкай вайсковай базе. Гэта горны і лясісты рэгіён Чэхіі з прыгожай нават, як ні дзіўна, амаль дзікаю прыродаю, быў моцна забруджаны нядаўняй прысутнасьцю там вайсковых частак. Мы пасьпелі там разьведаць навакольле і пабачылі, што побач ёсьці і іншыя аб'екты, цэлыя мёртвыя паселішчы з былымі жылымі дамамі, школамі, клюбамі, воданапорнымі вежамі, з вайсковымі складамі, дзе гнілі вялізныя запасы вайсковага прызначэньня – санпакеты, прылады і шмат чаго іншага патрэбнага на выпадак вайны. Усе гэтыя мёртвыя астанкі былой, хаця і "халоднай" вайны яшчэ больш зьдзічэлі гэтыя мясьціны, зрабілі непрыгоднымі іх для асваеньня і жыцьця, бо на зьнішчэньне ўсяго гэтага друзу патрэбныя немалыя сродкі. А раней ва ўсё гэта былі ўкладзеныя вялізныя грошы, якія асвойваў непамерна раздуты савецкі ваенны комплекс. Гэта былі нашыя грошы, грошы нашых бацькоў і ў пэўнай меры і нашых дзяцей. І цяпер яны аказаліся згноеныя ў лясах Чэхіі і гэта таксама наступствы інвазіі 1968 году.

Дэмакратычная, незалежная Чэхія будуецца і жыве на гуманных прынцыпах, новыя ўлады спрыяюць захаваньню памяці пра падзеі 1968 году, але не культывуюць пачуцьцё помствы да былых грамадзянаў СССР. Наадварот, у новы час Чэшская рэспубліка дапамагала і дапамагае шмат каму з выхадцаў з былога Савецкага Саюза, якія апынуліся ў небясьпецы пасьля развалу савецкай імпэрыі. Дапамагалі і дапамагаюць сёньня чэскія ўлады ўцекачам ад беларускага рэжыму. Такую абарону дала і мне асабіста Чэшская рэспубліка. На сёньня чэшскі пашпарт грамадзянкі гэтай краіны – мой адзіны грамадзянскі дакумэнт. Я шаную і люблю гэтую краіну, хаця па сямейных абставінах жыву сёньня далёка ад яе. Але, пачуцьцё вінаватасьці не праходзіць, яно не дае забыцца пра ўласную адказнасьць за тое, што адбываецца ў сьвеце і што часам падаецца нам не датычным нас асабіста. Несправядлівасьць і гвалт – зло, супроць якога трэба змагацца ўсюды, дзе яно ні выбухне. Наша абыякавасьць, наш страх, нерашучасьць толькі ўмацоўваюць яго. Таму і мы яшчэ доўга пасьля 1968 году былі ў савецкім рабстве і страцілі там лепшыя гады свайго жыцьця.

## Аўстралійскія беларусы змагаюцца з дыктатураю

*Гэты ліст мы атрымалі з Аўстраліі, у англельскай мове ад імя Беларускага Цэнтральнага Камітэта ў Мельбурне ён быў дасланы ў Сядзібу Вярхоўнага Камісара ААН па правах чалавека ў Жэнэве 29 ліпеня 2013 г.*

Мы, аўстралійскія грамадзяне, але беларускага паходжаньня, салідарызуемся з нашымі братамі, якія жывуць у Беларусі, дзе мы нарадзіліся.

Мы заклікаем і просім Арганізацыю Аб'яднаных Нацыяў узяць Рэспубліку Беларусь пад сваю апеку і кантроль, бо гэта нацыя са сваім этнічным паходжаньнем ідзе ў занядпад. Пра гэту трагедыю беларускага народу расейскі ўрад ведае, але дае падтрымку нелегальнаму ураду ў Беларусі, дзе нелегальным лідэрам аказаўся Аляксандр Лукашэнка, які робіць праблемы ў Беларусі, і пра гэта ведае цэлы сьвет.

19 сьнежня 2010 году былі заарганізаваны выбары прэзыдэнта Беларусі, Лукашэнка заарганізаваў гэтыя выбары, каб прадэманстраваць, як ягоная тыранія і агрэсія дзейнічаюць супроць мірных, спакойных беларускіх людзей. Выглядае, што Лукашэнка ўсьведамляў, што ён ня будзе мець падтрымкі беларускіх грамадзян. Ён арганізаваў сабе бясьпеку праз органы КДБ, каб ужыць іх супроць апанэнтаў-дэманстрантаў. Дзеля пэўнасьці Лукашэнка ўзброіў іх адпаведным рыштункам для пагрому дэманстрантаў, якія выступалі супроць фальсыфікацыі выбараў.

Сотні людзей былі жахліва зьбітыя, як, напрыклад, Уладзімір Някляеў, адзін з кандыдатаў у прэзыдэнты, ды іншыя. Многія былі арыштаваныя і пасаджаныя ў турмы.

Беларусы ня могуць далей акцэптаваць дыктатуру Лукашэнкі, яго тыранію і зьнявагі. Яны змагаюцца цяпер і будуць змагацца ў будучыні за свабоду сваёй нацыі. Дыктатура ня ёсьць рашэньнем для нармальнага жыцьця, бо гэта ёсьць прымітыўны спосаб кіраваньня. Але дыктатарская сыстэма ўжывае гэты спосаб дзеля ўтрыманьня ўлады.

У лютым 1945 году па заканчэньні Другой усясьветнай вайны ў Ялце ў Крыме адбылася канфэрэнцыя. Савецкія рэспублікі Беларусь і Украіна атрымалі статус сяброў створанай тады Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў, так сталася са згоды Сталіна. Сяброўства Беларусі і Украіны забясьпечвала Савецкаму Саюзу тры галасы ў ААН. Для Беларусі гэтае сяброўства было выдатнай па-дзеяю таму, што гэта падвышала яе міжнародны імідж. На сёньняшні час пазыцыя Беларусі ў ААН ёсьць больш моцнаю, чым пазыцыя Лукашэнкі ў гэтым краі.

Беларусь ня ёсьць сёньня вялікай краінаю, але яна мае тысячагадовую гісторыю. Інфармацыю на гэтую тэму можна знайсьці ў энцыкляпэдыях. Старажытная Беларуская дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае ў 14-16 стагодзьдзях было ўплывовай сілаю ва Усходняй Эўропе.

Многія дэманстранты, якія былі арыштаваныя ў сьнежні 2010 году пасьля так званых прэзыдэнцкіх выбараў, і да сёньня знаходзяцца ў турмах. Там зь імі абыходзяцца зьдзекліва. Гэта ёсьць вядомая тактыка - прынізіць годнасьць чалавека, тактыка з нацысцкіх канцлягераў і з савецкага ГУЛАГу.

Абавязкам Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў ёсьць агаласіць афіцыйна, што ў Беларусі існуюць і дзейнічаюць канцэнтрацыйныя лягеры.

Мы моцна верым, што толькі ААН можа заарганізаваць наступную дапамогу зьняволеным у Беларусі:

- Выслаць у Беларусь групу адвакатаў, каб дакладна высьветліць, у чым абвінавачваюцца дэманстранты
- Выслаць мэдычную групу спэцыялістаў, каб праверыць стан здароўя зьняволеных па палітычных прычынах

Беларусы жадаюць, каб урад Беларусі карыстаўся беларускай моваю, а не чужою – расейскаю.

Лукашэнка ня ёсьць добрым для беларусаў і Беларусі, ён ёсьць злым прывідам на беларускім шляху. Беларусь не хоча ніякай дыктатуры, бо гэта непрымальна для жыцьця.

## Ліст у Рэдакцыю

*Прывітаньне, шаноўная рэдакцыя газэты "Беларус"! Нашы імёны Вера і Даша. Мы ў ЗША нядаўна. Наткнуліся на вашу газэту пару тыдняў таму. Вельмі спадабалася інфармацыя, якую вы публікуеце. Але мы лічым, што газэце не хапае вершаў, напісаных беларусамі! Вельмі хацелася б данесьці нашыя вершы да беларусаў у Амэрыцы:*

Ты зрабіў усё, каб мы
Не змаглі вярнуцца на Радзіму,
Да родных палёў, лугоў, лясоў....
У маю памяць назаўжды ўбіліся сілавікі, пах турмы,
Як яны мяне зьнішчаюць.
Гэты зласвесны рэжым!
Дзе за слова можна згубіць галаву,
А за два - і ўсю сям'ю!
Апошні дыктатар Эўропы!
Які сорам для маёй Радзімы!
Ну што ж, ведай, Лукашэнка!
Лепей памру стоячы,чым на каленях,
Апусьціўшы галаву!

А яны ўсе б'юць
Б'юць сваімі ботамі тых, хто за праўду стаіць,
Тых, хто Радзіму ў крыўду не дасьць
І зноў на мітынгу, і зноў у турме
І адсяжу я столькі, колькі дадуць,
Карона зь мяне ня зваліцца,
А за краіну крыўдна.
Навошта нам такая ўлада, дзе людзі калекамі становяцца?
Хачу свой сцяг я бела-чарвона-белы,
а гэты зялёны няхай дыктатар зьесьць!

Зямляк! Ты не цурайся мовы сваёй роднай, Беларускай!
Яна наш твар, наша маці!
А што ты гаворыш па-руску ?
Ня будзь чужаземцам, ня будзь!
Не прыхіляй сваёй галавы перад прадажнымі катамі!
Не прыхіляй ніжэй сваёй душы, сваіх пачуцьцяў!
Будзь чалавекам! Будзь сапраўдным беларусам!
Будзь мудрым, моцным, як нашыя бацькі й дзяды, як дуб!
Трымайся моцна каранямі ў зямлі,
Што нават лукашэнкаўская навала ня зможа скрануць цябе зь месца,
Бо ты – сапраўдны Беларус!

# Беларуская выстава ў Паўдзённай Флярыдзе

27 ліпеня актавая заля гарадзкога цэнтру Сані Айлз, што ў Маямі (Sunny Isles Beach Goverment Cennter), сабрала з паўсотні чалавек на чале з двума вядомымі наваградчанамі. Першы зь іх, мастак і карыкатурыст, Дзьмітрый Багацішчаў быў галоўны вінавайца ўрачыстасьці. Арыгіналы дый копіі яготых карцін, а таксама яго карыкатуры й здымкі былі выстаўленыя для ўсеагульнага агляду ў рамках першага грамадзкага мерапрыемства, арганізаванага Флярыдзкім аддзелам БАЗА.

Беларусь, Расея, Канада і, нарэшце, ЗША... Білет з такімі жыцьцёвымі перасадкамі атрымаў Дзьмітрый Багацішчаў. У кожнай краіне яму наканавана было затрымацца не на адзін год, што і знайшло адлюстраваньне ў яготых творах.

Другі навагрудчанін зацікавіў прысутных сваімі рыфмаванымі радкамі, напісанымі пад натхненьнем карцін.

Прысутны на выставе госьць з Каліфорніі, былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі ў 1996 годзе Сямён Шарэцкі ня толькі выступіў зь цёплай прамоваю, але і ахвотна дапамагаў Дзьмітрыю адказваць на эканамічна-палітычныя пытаньні пра становішча ў Беларусі. Як аказалася, на выставу прыйшлі ня толькі аматары мастацтваў, але простыя людзі, прываблёныя словам “Беларусь” на афішах. Апошнія хацелі пры нагодзе даведацца больш пра гэтую таямнічую для іх краіну.

Выстава праходзіла пад эгідай Гуртка Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) у Паўдзённай Флярыдзе. Такім чынам, Гурток удала выконвае і сваю другую галоўную функцыю. Апрача гуртаваньня беларусаў, ён спрычыніўся да стварэньня дыскусійнага форуму на беларускую тэматыку.

*Паліна Прысмакова*

# Дыялёг паміж мастаком і гледачамі адбыўся (уражаньні наведніка выставы)




Нягледзячы на звыклае ўжо дажджлівае надвор'е, выставу наведала вялікая колькасьць мясцовых жыхароў і гасьцей горада Sunny Isles Beach, каб дакрануцца да чароўнага сьвету мастацтва.

Ідэі для работ у гэтай выставе былі пачэрпаны са шматлікіх падарожжаў Дзьмітрыя Багацішчава, у якіх ён правёў большую частку свайго жыцьця, перательараючы эмоцыі і ўспаміны ў творы мастацтва.

Прагледаючы выставу, я падумаў пра тое, што Дзьмітрый належыць да ліку мастакоў, якія адкрыты да ўсяго новага, якія не баяцца экспэрымэнтаваць з рознымі жанрамі мастацтва і мастацкімі прыёмамі. На выставе былі прадстаўлены розныя грані творчасьці Дзьмітрыя: карціны алеем, фотаздымкі і карыкатуры.

Значная частка экспазыцыі была аддадзена жывапісным творам. У большасьці сваёй пераважалі тэмы прыроды і вады, як выраз любові мастака да прыродных стыхіяў. Варта адзначыць, што Дзьмітрый валодае ўнікальным талентам бачыць і адлюстроўваць прыгажосьць прыроды. Ён шчыра верыць, што кожная палянка, кожнае дрэва, кожная рака і возера валодаюць сваёй унутранай магічнай энэргіяй і прыгажосьцю, і менавіта іх аўтар спрабуе захаваць у сваіх творах. Пры пісаньні карцін Дзьмітрый адлюстроўвае ўсё, што ён так любіць ў прыродзе: бясконца глыбокія колеры і адценьні, тэкстуры і формы, ад якіх немагчыма адарваць вачэй. Магія і жыцьцярадасны характар яготых карцін дазваляюць нашаму ўяўленьню вольна падарожнічаць, нагадваючы пра тое, наколькі прырода раскошная ў сваёй велічы.

Фотаздымкі, якія былі прадстаўлены на выставе, значна адрозьніваліся ад карцін па настрою і энэргетыцы. Дзьмітрый прыязна падзяліўся з намі тым, што многія з прадстаўленых на выставе фатаграфій былі вельмі асабістымі, бо яны прысьвечаны людзям, якія адыгралі важную ролю ў яго жыцьці. Фотаздымкі Дзьмітрыя гавораць самі за сябе: кожны зь іх распавядае нам гісторыю, ствараючы такім чынам дыялог паміж мастаком і гледачом. Візуальныя вобразы, спалучэньне колераў і адценьняў унікальна гарманіруюць са зьместам фотаработ. Гледзячы на гэтыя фатаграфіі, міжволі пачынаеш задавацца фундамэнтальнымі пытаньнямі чалавечага быцьця і сэнсу жыцьця. Яны далі нам унікальную магчымасьць зазірнуць ва ўнутраны сьвет Дзьмітрыя, спасьцігнуць яготыя ўнутраныя працэсы самапазнаньня і самарэалізацыі.

Яшчэ адной граньню творчасьці Дзьмітрыя зьяўляецца напісаньне карыкатураў. Нягледзячы на падманлівую прастату, за кожнай зь іх хаваецца досьціп, вобразны ход думак мастака і глыбокі зьмест. 12 доўгіх гадоў Дзьмітрый жыве далёка ад Бацькаўшчыны. Тым ня менш, у душы ён застаецца сапраўдным патрыётам. Палітычныя карыкатуры, якія былі прадстаўлены на выставе, зьяўляюцца ўвасабленьнем яго пратэсту супраць цяперашняга палітычнага рэжыму на Радзіме. Яго палітычныя карыкатуры адлюстроўваюць вяртаньне Беларусі да камуністычнага мінулага, парушэньне кіраўніцтвам краіны канстытуцыйных правоў і свабод грамадзянаў, закрытасьць дзяржаўных межаў. Вобразны характар красамоўней за многія словы.

Праз карыкатуры аўтар выказвае сваю нязгоду зь цяперашнім палітычным курсам у Рэспубліцы Беларусь, Дзьмітрый выказвае рашучы пратэст супраць парушэньня правоў чалавека і выступае супраць палітычных рэпрэсіяў. Карыкатуры Дзьмітрыя - гэта праява пачуцьця болю за Радзіму, гэта крык яготай душы. Сваёй творчасьцю, сваімі карыкатурамі Дзьмітрый ўносіць асабісты ўклад у змаганьне з дыктатураю ў Беларусі.

У заключэньне хацелася б адзначыць, што, незалежна ад формы, сапраўднае мастацтва павінна выклікаць эмоцыі, пачуцьці і разважаньні. Такім чынам адбываюцца невэрбальныя зносіны паміж аўтарам і гледачамі, менавіта дзеля гэтага дыялёгу гледачы наведваюць выставы. Выключна пазытыўныя водгукі пра выставу Дзьмітрыя Багацішчава паказваюць, што такі дыялог адбыўся. Зь нецярпеньнем будзем чакаць новых работ Дзьмітрыя!

*Сяргей Волкаў, Маямі*



*Госьці выставы*

# Марыў сустрэцца зь беларусамі Амэрыкі



Вестка пра Міколу Гайдука праскочыла кароткім радком у адным з папярэдніх нумароў “Беларуса”: у календары памятных датаў было згадана, што памёр ён 15 гадоў назад, 2 верасьня 1998 году. Памёр раптоўна, выбраўшыся ў грыбы ў свае родныя мясьціны. Быў ён да іх моцна прывязаны, а сэрца балела за беларускасьць – ёй служыў, за яе змагаўся, дзеля яе працаваў нястомна.

Быў Мікола з таго міжваеннага пакаленьня (нарадзіўся ў вёсцы Кабылянка на Беласточчыне), якое засьпела “панскую Польшчу” – зь яе зусім нераскавым стаўленьнем да беларускай меншасьці; выжыў у Другую сусьветную – зь яе смуроднымі пажарышчамі 1941-га ды пазьнейшымі начнымі візытамі “лясных братоў”. Прагны да ведаў, ён ухапіўся за магчымасьць атрыманьня вышэйшай адукацыі, якую дэкляравалі сялянскім дзецям новыя ўлады, паехаў вучыцца ў Савецкі Саюз. Растоў-на-Доне, Ленінград, Менск… Студэнтам быў актыўным. Аднакурсьніцы згадваюць яго як спрытнага й заліхвацкага танцора, для “куратараў” ён быў не такі пажаданы, бо горача дыскутаваў, “рэзаў праўдуматку”. Іхнае лаянкавае азначэньне “нацыяналіст” засталося зь ім да апошніх дзён.

З дыплёмам Беларускага дзяржаўнага ўніверсытэту Мікола Гайдук вярнуўся на бацькаўшчыну. Настаўнічаў, быў дырэктарам ліцэю ў Бельску Падляскім. Аднак неўзабаве літаратурная праца, пачатая ў студэнцкія гады допісамі ў “Ніву”, перацягнула. У 1971 годзе Мікола Гайдук пераходзіць на сталую працу ў гэты беларускі тыднёвік, сям’я перяжджае ў Беласток. (Праўда, настаўніцкая “частка” ягонае асобы занядбаная не была. Усе наступныя гады ён рыхтуе й выдае/перавыдае падручнікі па беларускай мове для школаў Беласточчыны, працуе над імі разам з жонкай – Лідзіяй Платонаўнай, вывезенай з савецкай Беларусі выпускніцай-філалагіняй.)

Мы пазнаёміліся ў 1979 годзе, калі Мікола – адзін зь вядучых публіцыстаў “Нівы” – прыехаў у Менск, каб сабраць матэрыял для чарговых публікацый, а мне маё рэдакцыйнае начальства загадала быць яго дарадцам і памочнікам. (Я ў той час вяла ў газэце “Голас Радзімы” аддзел культуры, а Міколу для інтэрвію патрэбны былі слынныя пісьменьнікі, мастакі, музыкі, навукоўцы…) Знаёмства нашае неяк незаўважна перарасло ў сяброўства й творчае супрацоўніцтва. Ён стаў для мяне сапраўдным асьветнікам у беларускай справе. Так, яго эмацыйныя экспромт-лекцыі па гісторыі Супрасьля або пра пачынальніцу каралеўскага роду Ягайлаў былі для “саветкі” з унівэрсытэцкім дыплёмам акном у няведамае. Сёньня ў гэтым сорамна прызнавацца, але ж гэта праўда. На жаль, нас так вучылі… А Мікола жыў беларускасьцю! Мова, гісторыя, нацыянальныя традыцыі, фальклёр… Яго клапаціла ўсё. Ён публікаваў у “Ніве” інтэрвію зь менскімі мастакамі, якіх тагачасныя савецкія мэтры абзывалі “этнаграфістамі”, раней, чым іх выставы атрымалі станоўчыя рэцэнзіі на Бацькаўшчыне; ён запісваў на магнітафон вясковых жанчын Беласточчыны зь іх традыцыйнымі песьнямі, а потым зьмяшчаў ноты й словы ў тыднёвіку ды іншых выданьнях; ён пісаў апавяданьні на гістарычныя тэмы, адштурхоўваючыся кожны раз ад нейкага радка летапісу ці біяграфіі рэальнай асобы. Яго кнігі выходзілі ў Беластоку й Менску, урад Польшчы адзначыў яго працу ордэнамі й званьнем заслужанага дзеяча культуры Польшчы (1986).

Жыцьцё ягонае, аднак, не было бясхмарным. І перажытыя несправядлівасьці шнарамі клаліся на сэрца. Адным з такіх эпізодаў, пра які мне стала вядома толькі праз некалькі гадоў пасьля сыходу Міколы Гайдука ў лепшы сьвет, стала гісторыя ягонай меркаванай паездкі да беларусаў Амэрыкі. У канцы 1970-х, калі беларусы Амэрыкі актыўна ўдзельнічалі ў розных этнічных праграмах ды канцэртах, Надзя Запруднік (тады – Кудасава) выпісала сабе беластоцкую “Ніву”. Хутка яна вылучыла Міколу Гайдука як аднаго з найбольш цікавых для сябе аўтараў і аднойчы напісала яму ліст. (Інфармацыя тады пашыралася ня так імкліва й татальна, як сёньня праз інтэрнэт.) Вестка пра тое, што ў Амэрыцы ёсьць актыўнае беларускае жыцьцё, узрушыла Міколу. У 1980-ым ён пачаў рабіць захады, каб паехаць да землякоў за акіянам і напісаць пра гэта сэрыю рэпартажаў для “Нівы”. Але… Справу гэтую “зацерлі”, а ў лістах да Надзі Кудасавай ён глуха спаслаўся на хваробу маці (гэтая навіна была, як кажуць, “учарашняя”). Таму я ня веру ў праўдзівасьць названай прычыны. Ён моцна гарэў жаданьнем бачыць кожную яркую праяву беларускасьці! Тым больш у Амэрыцы – краіне terra incognita. Хоць ён не казаў мне тады пра магчымую паездку (трэба разумець, які быў час!), але ж намякаў, што ма́е спадзевы ў хуткім часе на нешта цікавае ды вартаснае. Мяркую, менавіта той “куратар” у службе бясьпекі стаўся неадольным бар’ерам.

Рана выпіхнуты на пэнсію, Мікола Гайдук балюча перажываў сваю грамадзкую незапатрабаванасьць. Аднак працягваў пісаць прозу й вершы, шмат працаваў над беларусізацыяй царкоўнага жыцьця (у тым ліку рабіў пераклады, супрацоўнічаў зь менскім праваслаўным Брацтвам Віленскіх мучанікаў), спрабаваў займацца сельскай гаспадаркай. Пасьля яго на гэтым сьвеце засталіся кнігі, падручнікі, удзячныя вучні, дочкі і ўнучкі; добрая памяць і людзкая ўдзячнасьць. Сёлета ў Беластоку прайшла навуковая канфэрэнцыя, прысьвечаная яго жыцьцю, грамадзкай ды літаратурнай дзейнасьці. Цяпер др. Алена Глагоўская рыхтуе кнігу паводле выступаў ды ўспамінаў, якія там прагучалі.

А згаданая ўжо тут Надзя Запруднік, якая летам з мужам зрабіла вандроўку па Беларусі, не абмінула беластоцкія могілкі, дзе пахаваны яе даўні знаёмец. Надпіс на помніку выклікаў у нас абедзьвюх пытаньне, адказ на якое будзем шукаць. І гэта ёсьць прычына таго, што я ні разу не падала вышэй дату нараджэньня Міколы Гайдука. У літаратурных крыніцах фігуруе 29 траўня 1933 год. І канфэрэнцыя была прымеркаваная да 80-годзьдзя з дня нараджэньня. А на помніку – 1931… Што ж, яшчэ два гады жыцьця добрага чалавека ўспрымем як падарунак лёсу.

*Валянціна Трыгубовіч*

# На прыходзе Сьвятой Жыватачальнай Троіцы ў Зэльве ўшанавалі памяць Ларысы Геніюш

11 жніўня 2013г. прыход храма Святой Жыватачальнай Троіцы ў Зэльве ўшаноўваў памяць выдатнай беларускай паэткі Ларысы Геніюш. У часы бязбожнага атэістычнага ліхалецьця, калі ганьбіліся ўсе лепшыя рэлігійныя чалавечыя пачуцьці, Ларыса Геніюш заставалася адданай Царкве, абараняла сьвятара і ніколі не падтрымлівала існуючай багаборчай улады.

Пасьля літургіі з малітваслоўямі на беларускай мове прайшоў літаратурны вечар, прысьвечаны паэтцы. Вернікі мелі магчымасьць даведацца ад настаўніцы Ірыны Уладзіміраўны пра жыцьцё Ларысы Антонаўны і пачуць з вуснаў выхаванцаў нядзельнай школы прыхода напоўненыя хрысьціянскім зьместам вершы.

*Протаіерэй Георгій Субаткоўскі.*
*Сайт Гродзенскай епархіі: orthos.org*

# Юбілей Уладзіміра Арлова




Вядомаму беларускаму пісьменьніку 25 жніўня споўнілася 60 гадоў. Нарадзіўся ў старажытным Полацку, скончыў гістарычны факультэт БДУ. Працаваў настаўнікам гісторыі, журналістам, рэдактарам выдавецтва “Мастацкая літаратура”.

Дэбютаваў вершамі ў студэнцкіх часопісах «Блакітны ліхтар» (Наваполацк, 1973), «Мілавіца» (Мінск, 1976). Вядомасьць прынесла проза, творы гістарычнай тэматыкі. Аўтар 20 кніг прозы, паэзіі, гістарычных нарысаў і эсэ.

«Я часам лаўлю сябе на думцы, што пражыў не 60 гадоў, а прынамсі некалькі стагодзьдзяў. І ня толькі таму, што я ў сілу сваіх прафэсійных заняткаў падарожнічаю зноў і зноў у нашу мінуўшчыну, але яшчэ і таму, што за час майго жыцця сьвет непазнавальна зьмяніўся», - распавёў імяніньнік тэлеканалу «Белсат».

Рэдакцыя нашай газэты таксама сардэчна віншуе сп. Арлова са слаўным юбілеем і жадае яму новых творчых набыткаў.

# Прэзэнтацыя новай кнігі пра беларускую эміграцыю ў сьвеце





11 жніўня 2013 года ў Нью-Ёрку ў грамадзкай залі пры Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царкве Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлянтык Авэню 401 прайшла прэзэнтацыя кнігі старшыні Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) Ганны Сурмач "Беларусь бязь межаў", якая сёлета была выдадзена ў Беларусі.

Выданьне прысьвечана 20-й гадавіне Першага зьезду беларусаў сьвету, які адбыўся 8–10 ліпеня 1993 года ў Мінску, Ганна Сурмач была адным з арганізатараў гэтага форуму і была абраная там старшынёю Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". Сваю кнігу яна прысьвяціла сябрам і паплечнікам, зь якімі працавала ў Беларусі дзеля яднаньня беларускай эміграцыі ў сьвеце. Першая прэзэнтацыя кнігі адбылася ў Менску ў праграме Шостага зьезду беларусаў сьвету, які прайшоў сёлета ў ліпені.

У Нью–Ёрку кнігу прэзэнтавалі доктар Вітаўт Кіпель, дырэктар Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва – інстытуцыі, дзякуючы якой выданьне пабачыла сьвет, старшыня Рады дырэктараў Фундацыі Крэчэўскага, якая дапамагла ў фінансаваньні, Вячка Станкевіч, старшыня управы Бруклінскага Аддзелу БАЗА Тацьцяна Красоўская і сама аўтарка. Ганна Сурмач распавяла пра тое, як ствралася кніга, і выказала падзяку ўсім тым, хто спрычыніліся да яе выхаду ў сьвет – аўтару ідэі перадачы "Беларускае замежжа", былому кіраўніку Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода Вячку Станкевічу, цэлай Беларускай рэдакцыі гэтага Радыё, дырэктару БІНІМа Вітаўту Кіпелю, Фундацыі Крэчэўскага. Асаблівая падзяка была выказана рэдактарцы кнігі Валянціне Трыгубовіч, стараньнямі якой была забясьпечана высокая якасьць выданьня як у сэнсе рэдагаваньня так і друку. Менавіта сп. Валянціна арганізавала друк кнігі у выдавецтве "Лімарыус", якое зрабіла кнігу ня толькі прывабнай зьнешне, але і якасна зробленай з тэхнічнага боку.

Кніга складаецца з тэкстаў выпускаў перадачы "Беларускае замежжа", якія былі сабраныя аўтаркай пад час працы на "Радыё Свабода" ў першай палове 2000-х гг.

Выданьне – панарамнае адлюстраваньне беларускай прысутнасці ў сьвеце. Кніга ўключае шматлікія гутаркі з рэальнымі асобамі – беларускімі эмігрантамі з амаль усіх кантынэнтаў сьвету. Каштоўнасьць выданьня - ў пашырэньні ведаў пра беларускую эміграцыю, гісторыя якой налічвае ўжо не адно стагодзьдзе.



На завяршэньне імпрэзы адбылася перадача Вітаўтам Кіпелем малой скульптуры Еўфрасіньні Полацкай, выява якой была абраная сымбалем Першага зьезду беларусаў сьвету і ўсіх наступных. Яе ў дрэве выканаў вядомы мастак у Беларусі Эдуард Агуновіч, які зьяўляецца аўтарам сымболікі Першага зьезду. Доўгі час скульптура захоўвалася ў Беларускім Інстытуце Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку. Кіраўніцтва Інстытуту палічыла, што больш адпаведным месцам яе захаваньня і дэманстрацыі будзе духоўнае месца. Цяпер гэты сымбаль зойме пачэснае месца ў Царкве Сьв. Кірылы Тураўскага.

# Якуб Колас прыйшоў у Палачанку



Сапраўды, прыйшоў у невялікую вёсачку Палачанка непадалёк ад Ракава, што ў Валожынскім раёне. Яго воблік - на мэмарыяльнай шыльдзе работы народнага мастака Беларусі Івана Міско, устаноўленай на доме Марціна Мікалаевіча і Леакадзіі Уладзіміраўны Букрэяў. Пра што сьведчыць і надпіс на шыльдзе: "У гэтым доме ў 1953-1956 гадах неаднаразова спыняўся народны паэт Беларусі Якуб Колас". 27 ліпеня гэтага года ва ўрачыстай абстаноўцы, з удзелам жыхароў Палачанкі і Ракава, школьнікаў Ракаўскай СШ і тутэйшага лягера дзіцячага адпачынку быў адкрыты яшчэ адзін мэмарыяльны знак у гонар славутага песьняра Бацькаўшчыны.

Але чаму менавіта ў Палачанцы зьявілася гэтая шыльда? У народнага паэта свайго лецішча не было. Да вайны ён наймаў лецішча ў Пухавіцкім раёне, у прыватнасьці - у Балачанцы. Вайна панішчыла тыя мясьціны. Трэба было выбіраць новае месца летняга адпачынку і ня столькі для сябе, колькі для дзяцей і ўнукаў. Месца і адпаведную хату падказала, магчыма, цёця Уладзя, жонка Янкі Купалы, якая летавала ў суседнім Міхалове. Ды і назва вёскі лашчыла вуха: яна нітавалася са старажытнымі нашымі продкамі палачанамі, дый любімую Балачанку нагадвала. Радавала вока і сама драўляная хата Мікалая Букрэя, толькі што пастаўленая на высокім беразе лясной рачулкі з чэсаных смалістых бярвеньняў, крытая сьвежай дранкай. Тое што трэба! Гаспадары хаты рады былі займець такога кватаранта. Ды і Канстанцін Міхайлавіч доўга не раздумваў, толькі папрасіў хату не шаляваць, не фарбаваць, унутры не абклейваць шпалерамі - "каб смаляны дух ня выветрыўся".

Чатыры леты прыяжджалі на адпачынак у Палачанку сем'і сыноў Коласа - Данілы і Міхася. Да самай сваёй сьмерці ў 1956 годзе нярэдка завітваў сюды і сам паэт, часам заставаўся тут на некалькі дзён. Па ўспамінах жыхароў вёскі, яго наведвалі тут некаторыя беларускія пісьменьнікі - Максім Лужанін, Міхась Калачынскі, Уладзімір Дубоўка...

Ва ўрачыстым адкрыцьці шыльды прынялі ўдзел сын Якуба Коласа доктар тэхнічных навук, заслужаны дзеяч культуры Беларусі Міхась Міцкевіч, народны мастак Беларусі скульптар Іван Міско, мастак-жывапісец Фелікс Янушкевіч, аўтар гэтых радкоў. З асаблівым захапленьнем прысутныя слухалі выступленьне Міхася Міцкевіча, які не толькі прыгадваў сваю пабыўку ў Палачанцы, але і чытаў па памяці многія радкі вершаў свайго бацькі. Урачыстасць упрыгожыў беларускімі народнымі сьпевамі і скокамі славуты калектыў Ракаўскага Дома народнай творчасці "Гасьцінец", а таксама выкананы на флейце вучаніцай 7 класа каледжа-гімназіі імя Ахрэмчыка (Мінск) Вікторыяй Янушкевіч бесьсьмяротны "Паланэз Агінскага". Мясцовы фермер Аляксандр Грынкін прачытаў спецыяльна напісаны да гэтай падзеі свой верш "Якубу Коласу".

Несумненна, гэтая падзея надоўга застанецца ў памяці прысутных на ёй, асабліва моладзі. А мэмарыяльная шыльда на доме Букрэяў назаўсёды ўганаруе Палачанку сьветлай асобай аўтара "Новай зямлі".

*Вячаслаў Рагойша, доктар філялёгіі, прафесар БДУ.*

# Працяг палемікі

*Нашы чытачы працягваюць абмяркоўваць тэмы, узьнятыя ў артыкуле Алега Аблажэя "Прышпільная мова", надрукаваным у нумары за красавік–травень 2013.*

На 95 адсоткаў падзяляю і падтрымліваю думкі спадара Алега Аблажэя, выказаныя ім у сваім артыкуле "Прышпільная мова". Але ніяк не магу пагадзіцца з тым, што шаноўны спадар Алег, як той Сталін, аддае нашу старажытную назву "Літва" блізкароднасным нам суседнім летувісам-жамойтам, бо менавіта мы, ліцьвіны-беларусы, і ёсьць нашчадкі Вялікай Літвы, вядомай у сьвеце як Вялікае Літоўскае Княства. Сучасныя ж летувісы зьяўляюцца пераемнікамі Жамойцкага Княства, або інакш Жамойцкага Стараства, далучанага да нашага Вялікага Літоўскага Княства пасьля вядомай Грунвальдскае бітвы 1410 года. Украіна-Русь жа, вызваленая Вялікім Літоўскім Княствам з-пад татарскай няволі, увайшла ў нашае Вялікае Княства пад назовам Рускае, а поўнае яго найменьне Вялікае Княства Літоўскае (г. зн. Беларускае), Рускае (г. зн. Украінскае) і Жамойцкае (г. зн. Летувіскае). І крыўдна мне стала, што сьведамы наш братка беларус-мастак Алег Аблажэй яшчэ сёньня баіцца прызнаваць нас, ліцьвіноў-беларусоў, за сваіх кроўных, родных братоў... Ніякая гэта ня мода і не навіна называць нам сябе Літвою і ліцьвінамі, а сапраўдная наша гісторыя, наша Дзяржава, Вялікая Літва, - нашыя карані і нашая Будучыня!.. Дзіўна, што спадар Алег ня бачыць у нас, вялікаліцьвінах-беларусах, адданых сваёй Бацькаўшчыне-Літве сапраўдных шчырых патрыётаў і адмаўляе самаадданым абаронцам, пасьлядоўнікам і прыхільнікам ліцьвінізму ў эрудыцыі… Мы добра ведаем, як Расейская імпэрыя круціла-перакручвала, тасавала і перасоўвала з усходу на захад найменьні "Літва" і "Белоруссия", "Северо-Западный край Российской Империи" і "Западная область", "ЛітБел" і "Беларусь"!… Аж ліха бярэ маскаля і свайго манкурта, калі яны бачаць і адчуваюць, як няспынна расьце і шырыцца адраджэнскі рух ЛІЦЬВІНІЗМУ! Таму яны ізноў выцягнулі з труны на сьвет Божы гэтак званы западноруссизм і зноў носяцца з Украіны-Русі ў Беларусь-Літву як з пісанай торбаю са сваёю несусьветнаю ідэяю Святой Триединой Руси - гэткага міфічнага трохгаловага зьмея Гарыныча… Праз накінутую нам у 19 ст. аброць Белоруссия/Беларусь нашыя нядобразычліўцы-маскавіты зноў хочуць выпрагчы нас з нашага незалежнага свабоднага ваза-Рэспублікі і запрэгчы-закілзаць у імпэрска-шавіністычны воз-абоз-Саюз паслухмяных талярантных прыслужнікаў-беларусаў, дзе маскоўцы могуць зноў быць нахабнымі паганятымі з доўгаю пугаю-дратаванкаю… Не давядзі, Божа, да такога і пазбаў нас, Госпадзе, ад усяго ліхога!... Але мне яшчэ хочацца спыніцца на тарашкевіцы, бо яна на пачатку 20 ст. сьцьвердзіла таксама і нашую Адметнасьць, і нашую Самастойнасьць, і нашую Існасьць, і нашую Роўнасьць зь іншымі мовамі і народамі, і нашую Незалежнасьць!!!..

Браніслаў Тарашкевіч зрабіў сваю справу з правапісам амаль сто гадоў таму назад. І добра для таго новаадраджэнскага часу! І тады была вельмі вялікая патрэба ў граматыцы роднай мовы, якую зьдзейсьніў з посьпехам малады Браніслаў Тарашкевіч, выпускнік Пецярбургскага ўнівэрсытэту. І гэта была выключна ягоная заслуга і подзьвіг у імя свайго народа і ягонай мовы. Натхняльнікамі і дабраслаўляльнікамі для Бр. Тарашкевіча былі вядомыя мовазнаўцы: нямецкі прафесар-славіст Рудольф Абіхт, расейскі акадэмік Аляксей Шахматаў і наш ліцьвін-беларус Яўхім Карскі.

Але за гэты стогадовы час адбываліся і некаторыя зьмены і ўдакладненьні як у самім правапісе, так і граматычных нормах сучаснай беларускай мовы. За ўдакладненьні выступаў і сам Браніслаў Тарашкевіч. І рабіў іх пры перавыданьнях сваёй граматыкі. І зрабіў бы больш і ўдасканаліў бы, каб яго не расстралялі маскоўскія энкавэдысты ў Курапатах пад Менскам. Усьлед ішлі і іншыя беларускія граматысты, якія пісалі і выдавалі новыя граматыкі і падручнікі роднай мовы (Баляслаў Пачопка, Аркадзь Смоліч, Антон Луцкевіч, Янка Станкевіч, Язэп Лёсік, Анатоль Багдановіч, Воўк-Левановіч і іншыя). "Беларуская граматыка для школ" Браніслава Тарашкевіча стала грунтам-асновай для зьяўленьня далейшых граматычных распрацовак і пачаткам стабілізацыі нормаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы і іх удасканаленьня. Беларуская Граматыка Тарашкевіча вытрымала каля дзясятка перавыданьняў у Заходняй Беларусі-Літве і ў Менску Літоўскім... Мы павінны расшорыцца і зразумець, што сваю граматыку Браніслаў Тарашкевіч выдаваў перш за ўсё для першапачатковага навучаньня дзяцей у школе і саманавучаньня! Гэта не падручнік для студэнтаў! І гэта тым больш не акадэмічная граматыка беларускай мовы! Граматыка Тарашкевіча была прызначана толькі для вучняў школ і іх настаўнікаў!

Варта пачытаць, што пісаў сам Браніслаў Тарашкевіч 13.08.1928 г. у прадмове да 5-га, перапрацаванага і пашыранага выданьня сваёй Граматыкі 1929 г.:

"Беларуская граматыка для школ"... мела сваім заданьнем замацаваць і ўпарадкаваць... граматычныя асновы беларускай літаратурнай мовы ды ўстанавіць сталы правапіс.

Практыка жыцьця і прасьвечаная крытыка 10 гадоў… паказалі на некаторыя пахібы, а нават, хоць толькі часткова, і папраўлі іх.

Аўтар "Бел. грам. для школ" сам цяпер бачыць дужа выразна цэлую чараду яшчэ спрэчных пытаньняў (у аканьнні, у правапісе чужаземных слоў і інш.), бачыць патрэбу і магчымасьць спрашчэньня правапісу, але не бярэцца праводзіць якія-колечы паважнейшыя зьмены такім індывідуальна-партызанскім спосабам, накідаючы свой праект праз школьны падручнік".

Як выглядае, сам аўтар прызнаваў у сваёй Граматыцы некаторыя хібы і патрэбу ўдасканаленьня. Таму, паважаючы стваральную працу Браніслава Тарашкевіча і закладаньне ім граматычных асноваў беларускай літаратурнай мовы, ня будзем рабіць ідала з самога Тарашкевіча і зь ягонай Граматыкі, ня будзем ідэалізаваць і Тарашкевіцу! Пры многім станоўчым, яна мела і некаторыя хібы і недапрацоўкі.

І яшчэ адна думка. Паколькі Браніслаў Тарашкевіч быў заходнебеларускім ліцьвінам-каталіком, то, як і многія заходнікі-каталікі, застаючыся ў палоне паланізацыі, быў пад уплывам некаторых лацінска-польскіх фанэтычных і нават лексычных асаблівасьцяў - дзэканьня, дыканьня, тэканьне, тыканьне, эканьня (замест дзеканьня, цеканьня, аканьня ці яканьня). І гэтага лацінска-польскага ўплыву ніяк ня хочуць пазбыцца, на жаль, некаторыя заходнебеларусы як на Бацькаўшчыне, так і на чужыне, кажучы: Амэрыка, Эўропа. (Я прыхільнік напісаньняў "Амерыка" й "Яўропа"). І што абсурдна, што свае беларускія назовы Зельва, Скідзель, Маладзечна абзываюць спаланізаванымі Зэльва, Скідэль, Маладэчна! Наш ліцьвін малады Маладзец разам са сваёю жонкаю-маладзіцаю, які, відаць, і заклаў паселішча яму належнае, Маладзечна, бядак, штораз круціцца ў труне, як сьвядомыя і несьвядомыя маладзечанцы перакручваюць яго родную назву на польскі капыл: Маладэчна. (Паляки пісалі і сёньня пішуць Molodeczno, Horodeszno, Witebsk, Skidel, Zelwa, Ewropa, Ameryka). Як можна не разумець, што ў вытворных словах ад маладца ў нас павінна быць дзеканьне, а не дэканьне?! Бо мы ж кажам моладзь, маладзіца, моладзевы, маладзіца, маладзец, а не маладэц. Гэта па-ўкраінску молодэць. Нават тыя ж палякі дзекаюць тут: mlodziez', mlodziez'owy, mlodzieniec (юнак)....

*айцец Леванід Акаловіч*

## Увага!

У ЗША выйшла з друку кніга Янкі Запрудніка "Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі. Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948-2011 гг.)" - "Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey. Political Information through the Language of Art (1948-2011). New York, 2013".

Кніга выдадзена пад эгідаю Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва.

Гэтая кніга-альбом павінна зьявіцца ў кожнай беларускай сям'і–хаце і быць напамінам цяперашняму беларускаму пакаленьню ў дыяспары прапапярэднікаў ды як служыць Беларусі на чужыне.

Кошт выданьня – $ 40 плюс $ 10 за дасылку.

Падпісчыкам кніга будзе дасланая з аўтографам аўтара.

Зьвяртацца:

BINIM
330 Park Str. Haworth, NJ 07641
Ці на электронны адрас : janzap@aol.com

## Ствараецца міжнародны беларускі архіў

Пазаўрадавая польская арганізацыя Цэнтр "Карта" стварае Міжнародны беларускі архіў. Цягам бліжэйшага паўгодзьдзя архіў пачне працу ў Варшаве. На пытаньне, чаму палякі вырашылі фіксаваць найвейшую гісторыю Беларусі, адказвае Мацей Вырва з Цэнтра "Карта": "Адказ вельмі просты: бо да гэтага часу не зьявіўся Міжнародны беларускі архіў. "Карта" мае вопыт 30-гадовай працы як пазаўрадавая арганізацыя, якая займаецца гісторыяй XX стагодзьдзя і шмат гадоў рэалізуе архіўныя праграмы. Таму мы хочам у гэтай справе дапамагчы беларусам".

Міжнародны беларускі архіў зьбірае між іншага фотаздымкі, запісы відэа, мемуары і дзёньнікі, пісьмовыя дакумэнты на беларускай мове, але прымаюцца таксама матэрыялы на іншых мовах. Як адзначаюць стваральнікі, архіў у будучыні будзе перададзены ў Менск, як толькі ў Беларусі пройдуць дэмакратычныя зьмены.

*Ганна Мордань, Беларускае Радыё Рацыя*

# Каляндар памятных датаў на кастрычнік 2013 года

**1 кастрычніка** – Міжнародны дзень музыкі

**1 кастрычніка** – 125 гадоў таму, у 1888 годзе, нарадзіўся Лукаш Дзекуць-Малей, грамадзкі і рэлігійны дзеяч

**2 кастрычніка** – Міжнародны дзень лекара

**6 кастрычніка** – 50 гадоў таму, у 1963 годзе, памёр у Нью-Ёрку Віктар Чэбатарэвіч, палітычны і вайсковы дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**7 кастрычніка** – 225 гадоў таму, у 1788 годзе, нарадзіўся Іван Насовіч, мовазнавец, фальклярыст, аўтар слоўніка

**8 кастрычніка** – 70 гадоў таму, у 1943 годзе, памёр у савецкім канцлягеры Андрэй Мрый (Шашалевіч), пісьменьнік

**10 кастрычніка** – 75 гадоў таму, у 1938 годзе, расстраляны Адам Бабарэка, пісьменьнік

**13 кастрычніка** – 125 гадоў таму, у 1888 годзе, нарадзіўся Язэп Драздовіч, мастак, пісьменьнік, этнограф

**14 кастрычніка** – 110 гадоў таму, у 1903 годзе, нарадзіўся Адам Бабарэка, пісьменьнік

**15 кастрычніка** – 180 гадоў таму, у 1833 годзе, памёр у Флярэнцыі Міхал Клеафас Агінскі, дзяржаўны дзеяч, кампазытар

**19 кастрычніка** – 25 гадоў таму, у 1988 годзе, у Менску было ўтворана таварыства "Мартыралёг Беларусі" і аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту "Адра-джэньне"

**20 кастрычніка** – 60 гадоў таму, у 1953 годзе, у Маскве памёр Яўген Хлябцэвіч, літаратуразнавец, публіцыст, педагог

**21 кастрычніка** – 135 гадоў таму, у 1878 годзе, нарадзіўся Уладзімір Пічэта, гісторык, першы рэктар БДУ

**22 кастрычніка** – 10 гадоў таму, у 2003 годзе, памёр Міхась Раецкі, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі (Перт)

**23 кастрычніка** – 85 гадоў таму, у 1928 годзе, нарадзіўся Лаўрэн Клыбік, медык, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Бэльгіі

**24 кастрычніка** – 60 гадоў таму, у 1953 годзе, памёр у Лёндане Лявон Рыдлеўскі, грамадзка-палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Францыі, удзельнік Слуцкага паўстаньня

**25 кастрычніка** – 30 гадоў таму, у 1983 годзе, памёр Марыян Пецюкевіч, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху, этнограф

**29 кастрычніка** – 20 гадоў таму, у 1993 годзе, памёр Сяргей Карніловіч, грамадзкі рэлігійны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША (Кліўлянд)

**30 кастрычніка** – 130 гадоў таму, у 1883 годзе, нарадзіўся Янка Быліна, каталіцкі сьвятар, пісьменьнік, паэт

**30 кастрычніка** – 25 гадоў таму, у 1988 годзе, у Курапатах прайшоў мітынг-рэквіем "Дзяды", які быў жорстка разагнаны сілавікамі. Дзень памяці ахвяраў генацыду

# У Расеі выдалі раман Гебельса




Расейскае выдавецтва «Алгарытм» выпусьціла ў сьвет на расейскай мове першы і адзіны раман аднаго з бліжэйшых паплечнікаў Гітлера, галоўнага ідэёляга нацыстаў Ёзэфа Гебельса «Міхаэль. Германскі лёс у дзёньнікавых запісах».

Кнігу, напісаную ў 1923 годзе, выдалі ў серыі «Проза вялікіх». У кожным радку выдавецкай анатацыі праглядаецца вялікая сымпатыя да аўтара.

# Ня стала аднаго з самых вядомых мастакоў Беларусі Арлена Кашкурэвіча



26 жніўня пасьля цяжкай і працяглай хваробы памёр народны мастак Беларусі Арлен Кашкурэвіч. Дваццаць дзён ён не дажыў да свайго 84-га дня народзін.

Мастак нарадзіўся ў Менску 15 верасьня 1929 году ў сям'і служачых. Скончыў мастацкую вучэльню і тэатральна-мастацкі інстытут. Арлен Кашкурэвіч ілюстраваў творы беларускіх пісьменьнікаў, эўрапейскіх клясыкаў, біблейскія тэксты.

# Сьв. памяці Джон Мірановіч
## 28 траўня 1962 – 21 жніўня 2013

Заўчасна памёр ад цяжкай хваробы Джон Мірановіч (John Miranowic) - сын Полі й Кастуся Мірановічаў.

На паніхідзе былі бацькі й сястра. На разьвітаньне прыйшлі сябры і знаёмыя зь беларускай грамады ў Саўт-Рывэры, а таксама зь Нью-Ёрку.

Пахаваньне адбылося на могільніку царквы Жыровіцкае іконы Божае Маці ў Іст-Брансвіку.

# На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Міхась Баяроўскі | $ 20 |
| Канстанцін і Марыя Варабей | $ 40 |
| Раман Карп | $ 50 |
| Тамара Стагановіч | $ 100 |
| Валянціна Трыгубовіч | $ 20 |

Замест кветак на магілу беларускага музыкі Ігара Сімбірава) Чэкатоўскі Аляксандр $ 50

**Шчыры дзякуй усім ахвярадаўцам і запрашаем нашых чытачоў папаўняць шэрагі спрыяльнікаў у фінансавым забесьпячэньні газэты**

БЕЛАРУС
Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выдае:
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
BIELARUS
Belarusan Newspaper in the Free World
Published by
Belarusan American Ass'n, Inc.

Склад Рэдакцыі:
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая - адказная за камп'ютарную вёрстку
Андрусь Падлескі – сябра рэдакцыі
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

Адрасы Рэдакцыі:
Паштовы адрас:
Hazeta Bielarus
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432
USA

Грашовыя чэкі выпісываць на імя : BIELARUS newspaper дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

Электронны адрас (email): bielarus@bazahq.org

Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.